—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
4
КАСТРЫЧНІКА
1991 г.
№ 40 (3606)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—16 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)



## «ЛіМ»—ваша газета!

Даражэе ўсё — акрамя падпіскі на «ЛіМ». Інфляцыя закранула і нас. Але, свядома пакідаючы ранейшы кошт гадавога камплекта «ЛіМа», мы спадзяваліся, што гэта дапаможа стаць сябрамі тыднёвіка ўсім грамадзянам Рэспублікі Беларусь, неабыякавым да лёсу роднай мовы, культуры, гісторыі...

Падпісвайцеся на «ЛіМ»! 5 рублёў 40 капеек не зробяць «дзіркі» ў вашым сямейным бюджэце. 5 рублёў 40 капеек — і кожны тыдзень вы будзеце атрымліваць 16 старонак самай разнастайнай інфармацыі з жыцця рэспублікі. Падпіска на «ЛіМ» можа стаць добрым падарункам вашым сябрам, знаёмым, аднадумцам: вы далучыце іх да святой справы Адраджэння Бацькаўшчыны.

Наш індэкс — 63856.



*УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

# Аб прысваенні ГІЛЕВІЧУ Н. С. ганаровага звання «Народны паэт Беларусі»

За вялікія заслугі ў развіцці беларускай мастацкай літаратуры прысвоіць паэту Гілевічу Нілу Сямёнавічу ганаровае званне «Народны паэт Беларусі».

30 верасня 1991 года
гор. Мінск.

Старшыня Вярхоўнага Савета
Рэспублікі Беларусь
С. ШУШКЕВІЧ.

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

●

Дошні гонару апусцелі.
Нават з гонарам стала горш —
Ён каштуе сёння грош.
Прадстаўніча дзядзькі у целе
У прэзідыумах сядзелі,
Паважалі сябе.
І што ж?..

Ці змянілі свой ход свяцілы,
Ці такі ўжо прыватны лёс?
Спрэс разгубленасць і хаос,
Ні імпэту няма, ні сілы,
Што іграла ў крыві,
п'яніла...
Апусціўся паныла нос.

Рабацягі машыны страшнай,
Выканаўцы яе задум,
Вы душу аддалі на глум,
І няшчасныя дзеці вашы —
Спадкаемцы вялікай лажы.
Дык мо возьмецеся «за вум»?

Той пакутуе ў нашым часе,
Хто ў сабе забіваў дабро.
І падвешаным за рабро
Мабыць, лепей быць.
Хто згінаўся,
Хто апалай лістотай слаўся,
Тых наступнасць
збярэ ў вядро.

**Ад аўтара.** У сшытку, куды я запісваю новыя вершы, гэты верш пазначаны датай 23.12.90 г. Я не спяшалася яго друкаваць і, мабыць, правільна разважыла: ён трошкі апярэджваў падзеі. З цягам часу ўчарашняе слова зраўнялася з сённяшнімі падзеямі, дык хай яно будзе пачутым.

## ЗНОЎ АДЧЫНІЎСЯ ЛІЦЭЙ

Сёлета адбыўся першы выпуск слухачоў нядзельнага ліцэя, створанага пры Беларускім гуманітарным культурнаадукацыйным цэнтры. Рэпартаж аб адкрыцці цэнтра быў змешчаны ў «ЛіМе» ў студзені («Ліцэй адкрыўся на каляды»). Стварэнне гуманітарнага цэнтра падтрымалі ў свой час у камісіях Вярхоўнага Савета Беларусі, Саўміне рэспублікі. На жаль, як часта бывае, пачынальнікі новай справы неўзабаве апынуліся сам-насам з многімі праблемамі. У прыватнасці, былі немалыя цяжкасці з памяшканнем для заняткаў.

І ўсё ж днямі — прыемная навіна: ліцэй распачаў новы навучальны год. Урачыстае адкрыццё прайшло ў Мінскай школе № 38 па вуліцы Бельскага.

## У БНФ—свой рахунак

**Нядаўна Беларускі народны фронт «Адраджэнне» адкрыў свой разліковы рахунак у Камерцыйным банку «Дукат». Рахунак зарэгістраваны пад нумарам 70096 МФО 400417.**

# «...ХОТЯ БЫ ОДИН СПЕКТАКЛЬ НА БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ»

## Пасляслоўе да аднаго інтэрв'ю

Ёсць на нашай зямлі спрадвечна беларускі край, які мае багатую і слаўную гісторыю, — Панямонне, альбо Гарадзеншчына. У старадаўняй Гародні выходзіць галоўная газета гэтага слаўнага куточка Беларусі, і называецца яна «Гродненская правда». І тэатр ёсць у Гародні. І называецца ён «Русский областной драматический театр». Галоўным рэжысёрам там — Міхаіл Разцоў. І даў ён 21 верасня г.г. інтэрв'ю паважанай «Гродненской правде» (брала яго журналістка Святлана Карамазіна).

Прачытаў я тое інтэрв'ю («Я — за зрительский референдум») і, як кажуць, вачам не паверыў.

Аказваецца, С. Кармазіна ведае, што «не только учебным заведениям, но и театрам республики настоятельно рекомендуют переходить на белорусский язык». Зыходзячы з гэтага ведання, журналістка і задае рэжысёру пытанне: «Как вы относитесь к этому?.. Имеет ли коллектив в данном случае право голоса, право на свое мнение, или, как обычно, будут выполняться указания свыше?..»

Пытанне аказалася надзвычай балючым для Міхаіла Ільіча. Як кажуць, і хочацца, і колецца. «У нас страна резких, порой непродуманных и невыполнимых решений... К чему эти резкие зигзаги и метания?»

Гэта таварыш Разцоў гаворыць, наколькі можна зразумець, пра жаданне беларусаў жыць вольна на сваёй зямлі. Чаго, маўляў, у тую незалежнасць перціся?!

Не, ён увогуле не супраць таго, каб беларусы іншы раз пачулі сваю мову. «Должен оказаться приоритетным белорусский язык, но это вовсе не означает, что все остальные культуры должны исчезнуть, кануть в никуда». Ну што тут скажаш? Знаёмы матыў! Чуеш, паважаны чытач, іншыя культуры (найперш — руская) пад пагрозай знікнення!

**«Среди зрителей не только белорусы, но и русские, евреи, поляки, украинцы. Что же, они должны лишиться возможности посещать театр?» Ай-яй-яй! Таварыш Разцоў, таварыш Разцоў, вы гэта што — сур'ёзна? Няўжо можна гэтак люта ненавідзець мову народа, на зямлі якога жывеш, каб нават і ў тэатр не патыкнуцца, бо там спектаклі ідуць на гэтай мове?**

**«Русский язык недостоин такого обращения с ним?» Ага, «русский язык недостоин». Ну, а беларуская мова? Яна ўсё стрывае? Усе абмежаванні, усе здзекі? Так вы лічыце?**

**«Я очень надеюсь, что здравый смысл возобладает над эмоциями. И если уж мы подписали Декларацию прав человека, то необходимо прислушиваться к голосу каждого». Трэба, трэба прыслухацца, вядома. Ну, а да голасу народа, да яго волі прыслухоўвацца не трэба? А права народа на самавызначэнне — права другараднае?**

**«Хотя я не исключаю такой вариант, что и в русском театре может играться хотя бы один спектакль на белорусском языке»... Што вы кажаце? Апамятайцеся, Міхаіл Ільіч! І не падумалі нават: а чаму ў Гародні тэатр не беларускі, а рускі? Хіба беларусы тут ужо ў рэзервацыі жывуць? І асабіста вам, Міхаіл Ільіч, даручана вызначаць, колькі спектакляў глядзець ім на роднай мове? Сапраўды: дазвольце, дзядзечка, пераначаваць мне ў маёй хатцы, хоць пад лаўкай...**

Дзіву даешся, наколькі адарваны таварыш Разцоў ад культурных і палітычных працэсаў, што адбываюцца на нашай зямлі. Быццам не чуў ён ні пра Рэспубліку Беларусь, ні пра дзяржаўнасць беларускай мовы, ні пра той стан, у які яна трапіла за апошнія пяцьдзесят гадоў. А чалавек жа быццам і разумны. Сам жа кажа: адна культура за кошт другой развівацца не можа. Вядома, не можа! Не можа руская культура развівацца за кошт беларускай. Не расквітнее і культура польская, украінская, яўрэйская на зямлі Беларусі, калі не будзе квітнець культура беларуская. І для разумення гэтага не трэба аніякага рэферэндуму.

А пытанне ўзнікае такое: ці чытаюць «Гродненскую правду» ў нашым Міністэрстве культуры?

**ЛІМАВЕЦ.**

сходзе парламенцкай апазіцыі БНФ, дзе выпрацоўвалася тактыка супраціўлення путчыстам, паўстала пытанне і аб неадкладным стварэнні Беларускага згуртавання вайскоўцаў, што і было зроблена назаўтра — 20 жніўня. У згуртаванне ўвайшло напачатку 10 чалавек — прадстаўнікі ўсіх дэмакратычных партый і арганізацый Беларусі. Старшынёй згуртавання абралі мяне. Былі прыняты заява аб неабходнасці стварэння беларускага войска, адозва да вайскоўцаў Беларускай ваеннай акругі. Распаўсюдзіць прынятыя дакументы нам дапамог Мінскі стачком.

Згуртаванне наша расце, мацнее, ёсць вельмі шмат жадаючых уліцца ў яго. Створаны ўжо і кіруючы орган нашай вайсковай арганізацыі — каардынацыйная і выканаўчая рады. Прыняты часовы статут, які будзе дзейнічаць да нашага з'езда, які павінен адбыцца 12—13 кастрычніка г. г. З'езд абмяркуе пытанне аб шляхах стварэння Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь, у тым ліку рэспубліканскай гвардыі.

**— Войску патрэбна ўзбраенне...**

— Гэта не праблема. На тэрыторыі рэспублікі хопіць зброі не на адно войска.

**— Вы маеце на ўвазе арсеналы Беларускай ваеннай акругі?**

— Так. На нашай тэрыторыі знаходзяцца яшчэ і часці, так сказаць, цэнтральнага падначалення — супрацьпаветранай абароны, ракетныя, чыгуначныя, памежныя.

**— Але ж гэта быццам бы «чужое»...**

— Ну, якое яно «чужое»? Хіба не з кішэні жыхароў рэспублікі ішлі грошы на стварэнне вялікай часткі гэтай зброі? Дарэчы, камандуючыя войскамі, якіх я пералічыў, выступалі на сесіі Вярхоўнага Савета, дзе слухалася пытанне аб стварэнні беларускага войска, і, здаецца, ніхто з іх не пярэчыў супраць перадачы гэтых фарміраванняў пад юрысдыкцыю рэспублікі.

**— Я акурат і збіраўся спытаць у вас, як ішло абмеркаванне пытання аб стварэнні Узброеных сіл Беларусі на сесіі Вярхоўнага Савета і чым яно скончылася?**

— Хачу сказаць, што Беларускае згуртаванне вайскоўцаў удзельнічала ў падрыхтоўцы гэтага пытання разам з пастаяннай камісіяй па вайсковых пытаннях Вярхоўнага Савета, мы выклалі там сваё бачанне вайсковай рэформы ў рэспубліцы. Дапамаглі распрацаваць пастановы, з якімі, па гэтым пытанні, збіралася выйсці на

(Працяг на стар. 4).

Ніл ГІЛЕВІЧ

# КАБ ЖЫЦЬ ПА-ЛЮДСКУ!

**Два тыдні мы жывём у Рэспубліцы Беларусь. Прыняты таксама новыя герб і сцяг беларускай дзяржавы. На нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета з абгрунтаваннем прапаноў па новай назве рэспублікі і яе дзяржаўных сімвалах выступіў старшыня парламенцкай Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Н. Гілевіч. Па просьбе чытачоў друкуем яго прамову.**

Шаноўны старшыня!

Паважаныя калегі, народныя дэпутаты!

Я хачу пачаць з таго, што пытанні, якія мы пачынаем абмяркоўваць, далёка не ўсімі ў нашай рэспубліцы разумеюцца як жыццёва важныя, актуальныя, а ўспрымаюцца як нешта такое, на што не варта сёння траціць ні час, ні сілы, ні сродкі. Асабіста я амаль усё свядомае жыццё, ужо колькі дзесяцігоддзяў адчуваю, наколькі гэтыя пытанні непапулярныя і нявыгадныя для тых, хто імі жыве, наколькі гэта няўдзячная тэма. Тэма, якую многія або зусім не ўспрымаюць, або ўспрымаюць з глухім ці адкрытым раздражненнем, з нейкай прыкрасцю, або ў лепшым выпадку — з недаўменнем: маўляў, што гэта, для чаго і каму патрэбна? Самае сумнае, што сказанае датычыць і людзей, якія не сумняваюцца ў сваёй інтэлігентнасці, людзей з дыпломам у кішэні. Куды выгадней ставіць пытанні эканамічныя, экалагічныя, сацыяльныя, гаварыць пра хлеб надзённы, пра ўсё, што на патрэбу жывата нашага, але не душы, не духа. Мы дзіўныя ў гэтым сэнсе людзі: да святынь у нас вульгарна-спажывецкі падыход. Нідзе ў свеце і ў галаву нікому не прыйдзе разважаць так: спачатку — каўбаса, а потым — культура, або: спачатку цукар, папяросы, панчохі, а потым — нацыянальны сцяг, герб, гімн і г. д. Нідзе ў свеце проста не дапусцяць такога — з павагі да сябе, да сваёй чалавечай і нацыянальнай годнасці. А ў нас — мы галасуем нават супроць **уключэння ў парадак дня** пытанняў культуры, не кажучы пра тое, каб іх спакойна і, канешне ж, станоўча вырашыць. Мы ствараем праблемы там, дзе ў добрых людзей на свеце іх няма і не можа быць.

Асаблівасць сённяшняй палітычнай сітуацыі на Беларусі ў тым, што працэс арганізацыі незалежнай дзяржавы супадае з працэсам нацыянальнага адраджэння беларускага народа, адраджэння яго духоўнасці, яго мовы, культуры, і яго гісторыі — Гісторыі з вялікай літары і ў самым дакладным значэнні гэтага слова. Чаму—іменна адраджэння? Чаму іменна гэтым словам, гэтым тэрмінам мы карыстаемся? Таму што на працягу стагоддзяў пад сцягам імперыі і пад лозунгам росквіту нацый уся гэта наша нацыянальная духоўнасць, наша гісторыя, мова, культура забіваліся, тапталіся, падвяргаліся планамернаму вынішчэнню і генацыду. Цяпер нам патрэбна ўсё гэта адраджаць, аднаўляць, падымаць з руін, вяртаць да жыцця, вяртаць у нармальнае, натуральнае становішча. Рабіць гэта няпроста, але рабіць трэба — для таго, каб лягчэй вывесці наша грамадства з агульнага крызісу.

Мы аб'явілі незалежнасць сваёй Беларускай дзяржавы — з упэўненасцю, што гэта самы верны шлях, каб нарэшце зажыць па-чалавечы, па-людску. Але ж гэту дзяржаўнасць трэба арганізаваць, усталяваць, а перш за ўсё — абазначыць яе абсалютна неабходнымі атрыбутамі. Дзяржаве трэба мець сваё Імя, свой Сцяг, свой Герб, свой Гімн. Што трэба мець — не прадмет для дыскусій. Дыскусіі могуць узнікнуць з разыходжанняў у поглядах, **якімі** павінны быць назва і сімвалічныя атрыбуты нашай Дзяржавы. У вас на руках, шаноўныя дэпутаты, праекты Законаў аб назве, Сцягу і Гербе Рэспублікі. Аб Гімне мы будзем тут гаварыць пазней — калі пройдзе конкурс на яго новы тэкст і музыку, такое рашэнне Прэзідыума. Разам з праектамі Законаў вы маеце і навуковыя абгрунтаванні — высновы вучоных гісторыкаў, якія пацвярджаюць прадуманасць, узважанасць, навуковую і палітычную абгрунтаванасць прапануемых праектаў назвы Дзяржавы, яе Сцяга і Герба. Да вашых паслуг — змястоўная выстава ў фае, экспазіцыя малюнкаў і фотаматэрыялаў — яны дапамагаюць наглядна ўявіць прадметы, якія мы разглядаем. Абмеркаванне законапраектаў прайшло ў камісіях, прынцыповых пярэчанняў не паступіла, апрача як з Камісіі па таварах народнага спажывання, гандлю і паслугах насельніцтву, якая прапануе пытанне аб назве, Сцягу і Гербе Рэспублікі разглядаць адначасова з праектам новай Канстытуцыі Беларусі. Нашай камісіі гэтая прапанова не здаецца слушнай, яна мае хутчэй фармальны характар. У новую Канстытуцыю якраз і павінны ўвайсці прынятыя ўжо Вярхоўным Саветам палажэнні аб атрыбутах Дзяржавы. Камісія па заканадаўстве прапанавала абазначыць тэрміны, калі законы павінны ўступаць у сілу, — гэта заўвага нашай камісіяй улічана.

Зазначу таксама, што пытанні аб назве, Сцягу, Гербе і Гімне Беларусі шырока абмяркоўваліся на старонках рэспубліканскага друку, і думка грамадзян, якія выказаліся, у большасці выпадкаў, рашуча на баку менавіта тых узораў Сцяга і Герба, якія прапануюцца ў законапраектах.

Шаноўныя дэпутаты, вельмі не хацелася б, каб мы тут з якіх-небудзь, можа, і самых лепшых меркаванняў ускладнілі і зацягнулі прыняцце законаў пра назву, Сцяг і Герб Рэспублікі. У мяне асабіста, не буду ўтойваць, ёсць наконт гэтага пэўная трывога, і яна ўзнікла пасля таго, калі не было падтрымана і не стала ў парадак дня сесіі пытанне аб назве сталіцы Беларусі — Менску. Гэта мяне, вядома, засмуціла. Але я мушу засмуціць і вас — тых народных дэпутатаў, якія галасавалі супроць таго, каб паставіць пытанне аб адмене

(Працяг на стар. 4).

Гэтае выступленне, якое я прапаную «ЛіМу», раней не магло з'явіцца ў нашым друку. Але ў канкрэтны час, у канкрэтным месцы яно было прамоўлена, выклікала значны рэзананс, і сёння, у святле апошніх падзей, мяркую, будзе цікава чытачу. Яно дасць уяўленне, што імідж Беларусі як рэспублікі кансерватыўнай уяўляў для нашых нацыянальных інтарэсаў вялікую пагрозу, і яго неабходна было спакойна, але няўхільна разбураць... Першымі, здаецца, гэта зразумелі дыпламаты. Бо яны заўсёды «на вастрыі» праблем, найбольш чуйна ўлоўліваюць тое непрадузятае, што кідаецца ў твар іх Радзімы. Яны першымі заклікалі рэагаваць на тое, што адбываецца, цярпліва растлумачваць свету, што наш працавіты і таленавіты народ так часта цярпеў ад няўдач суседзяў, ды і сваіх уласных, што ў нетрах нацыянальнай самасвядомасці і выплюхнулася горкая для нас ісціна: «Няхай пройдуць іншыя, а мы потым».

Імкненнем даказаць, што Беларусь — не правінцыйны, не закінуты куток Еўропы, што наш народ, як і ягоныя суседзі, марыць пра лепшае заўтра, і прадыктавана гэтае маё выступленне. З ім я выступіў на пленарным пасяджэнні буйнога міжнароднага семінара, арганізаванага ў сувязі з адкрыццём Еўрапейскага даследчага цэнтра Інстытута вывучэння праблем бяспекі «Усход-Захад», які праходзіў у замку Штыржын (у навакollі г. Прагі) 24—26 лістапада 1990 года. У рабоце семінара прымалі ўдзел і выступілі прэзідэнт ЧСФР Вацлаў Гавел, старшыня камісіі па міжнародных справах сената ЗША Клейбарн Пэл, старшыня бундэстага прафесар Рыта Зюсмут, міністры замежных спраў Румыніі і Расіі А. Нэстасе і А. Козыраў, кіраўнік парламента Чэшскай Рэспублікі Франц Бучар, будучы кіраўнік урада Славацкай Рэспублікі Ян Чарнагурскі, прадстаўнікі Еўрапарламента, КЭС, вядомыя вучоныя-палітолагі.

Старажытны замак сустракаў прадстаўнікоў еўрапейскіх краін, усіх еўрапейскіх палітычных структур. Менавіта тады і адбылася сустрэча міністра замежных спраў Беларусі з Вацлавам Гавелам, у ходзе якой і быў вырашаны лёс помніка Ф. Скарыну ў Празе. Менавіта тады прэзідэнту ЧСФР ад імя народа і ўрада Беларусі была паднесена першая друкаваная кніга на старабеларускай мове — факсімільнае выданне Бібліі, адрукаванай у жніўні 1517 года Ф. Скарынам у Празе. Паднесена са словамі: «Мы з удзячнасцю вяртаем Вам тое, што некалі Вы памаглі набыць нам»...

Пётр КРАЎЧАНКА,
міністр замежных
*спраў Рэспублікі*
Беларусь.



# ЧАС ЗБІРАЦЬ КАМЯНІ

**Выступленне міністра замежных спраў БССР П. КРАЎЧАНКІ на семінары, арганізаваным з нагоды адкрыцця Еўрапейскага даследчага цэнтра Інстытута вывучэння праблем бяспекі «Усход-Захад»**

Паважаныя дамы і панове!

Паважаныя калегі!

Віхор перамен, што кружыць цяпер над Еўропай, сабраў нас тут, у гэтым цудоўным замку Штыржын, своеасаблівым астраўку спакою, каб мы на працягу гэтых двух дзён маглі на кароткае імгненне спыніцца і азірнуцца на падзеі апошняга года.

Некалі гісторыкі, карыстаючыся біблейскім выказваннем, магчыма, назавуць гэты час годам раскідання камянёў. Многія ранейшыя збудаванні рухнулі ці былі знесены народамі, выказаўшы такім чынам сваё незадавальненне становішчам, у якім яны апынуліся ў канцы 80-ых гадоў.

Ацэньваючы цяперашняе, цяжка стрымацца ад гістарычных аналагаў і паралеляў, не прааналізаваць асноўныя еўрапейскія тэндэнцыі мінулага і дня сённяшняга. Генеральны накірунак, па якім ішло і ідзе паўтаравяковае развіццё Еўропы, пачынаючы з Венскага кангрэса, і якое характарызавалася барацьбой кансерватыўных і прагрэсіўных сіл — ГЭТА САМАВЫЗНАЧЭННЕ НАРОДАЎ. Асабліва пераломнымі і важнымі для многіх з нас былі падзеі 1918—1919 гадоў, калі на руінах былых палітычных структур з'явіліся новыя суб'екты міжнароднага права. Еўропа тады з апасеннем пазірала на гэты працэс. З апасеннем яна пазірае на яго і сёння. Пры ўсім непадабенстве цяперашняй сітуацыі з падзеямі першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя пэўны аналаг, на мой погляд, усё ж ёсць. Хацела б альбо не наша старая, добрая Еўропа, але «прачынаюцца» і ўступаюць у актыўнае жыццё новыя ў палітычных адносінах народы. Тэндэнцыі да самавызначэння ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе не вызначаюць развіццё на кантыненце (дзе дзейнічаюць іншыя, перш за ўсё інтэграцыйныя інтарэсы), але ўяўляюць сабой працэс глыбіннага, фундаментальнага характару. Мы бачым, улічваем тую і іншую тэндэнцыі, якія ў цэлым складаюць дыялектычную па сваёй сутнасці сітуацыю. Мы за ідэю будаўніцтва агульнаеўрапейскага дома, дзе ўладарна і безагаворачна дзейнічаў бы прымат права. Але ўсё пытанне ў тым, колькі павінна быць у яго гаспадароў? Гэта — ПЕРШАЯ метадалагічная пасылка.

ДРУГАЯ, што тычыцца будучыні Еўропы, складаецца ў вызначэнні і фіксацыі патэнцыяльных супярэчнасцяў, якія могуць «узарваць» наш агульны дом. На змену былому процістаянню паміж Заходняй і Усходняй Еўропай, дзе ў якасці асноўнага дэзінтэгруючага фактара выступала ІДЭАЛОГІЯ, можа прыйсці процістаянне ЭКАНАМІЧНАЕ, звязанае з няроўнымі ўмовамі эканамічнага развіцця, рознымі ўмовамі старту і інтэграцыі ў асноўныя еўрапейскія эканамічныя структуры. Поспех эканамічных рэформ ва Усходнееўрапейскіх краінах з'яўляецца ключавым фактарам у пераадоленні расколу Еўропы. У адваротным выпадку Заходняй Еўропе давядзецца ствараць новую «жалезную заслону», бо адсутнасць эканамічнага поспеху, эканамічнага росту можа прывесці да масавай міграцыі і з'яўлення катэгорыі эканамічных бежанцаў.

ТРЭЦЯЯ метадалагічная пасылка, арганічна звязаная з другой, выходзіць на праблему межаў і тэрытарыяльных узаемаадносін. Мы бачым непасрэдную ўзаемасувязь паміж узроўнем, стандартам жыцця і памежна-тэрытарыяльнымі ўзаемаадносінамі. Выраўніванне ўзроўняў жыцця чалавека ў розных кутках Еўропы з'яўляецца асноўным фактарам стабілізацыі і спакою, «размывання» межаў на нашым кантыненце. І тут велізарнае значэнне мы надаём гандлёва-эканамічнай палітыцы аб'яднанай Германіі, тэндэнцыям агульнаеўрапейскай кааперацыі і ўзаемадзеяння. У якой якасці паўстае Беларусь ва ўмовах гэтых фундаментальных структурных зменаў? Што складае сістэму яе эканамічных і палітычных прыярытэтаў? Тут не абысціся без невялікага гістарычнага экскурсу. Многія дзесяцігоддзі, пачынаючы з 1919 года, часу наpаджэння нашай нацыянальнай дзяржавы, мы з'яўляліся суб'ектамі міжнароднага права, але права пасіўнага, «адкладзенага», якое не садзейнічае сапраўднаму самавыяўленню і праяўленню нацыянальнай самабытнасці.

Наш 45-гадовы ўдзел у дзейнасці ААН, гэтай універсальнай і аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі, якая перажывае цяпер, на мой погляд, «другое дыхание», — наглядная таму пацвярджэнне. Мы не хочам больш быць ценем вялікіх суседзяў, не хочам, як гэта было, пачынаючы з 1921 года, з трагічнага для нас Рыжскага мірнага дагавору, быць разменнай манетай у вялікай еўрапейскай гульні. Вельмі часта нашы лёсы вырашалі, не пытаючыся нас саміх. Таму адзінае выйсце мы бачым у палітычнай перабудове нашай краіны і трансфармацыі яе ў Саюз суверэнных дзяржаў. У гэтай сувязі прынцыповае значэнне мае для нас Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. Але наш падыход да суверэнітэту, у адрозненне ад бліжэйшых суседзяў і сяброў, мае і прынцыповыя адрозненні. Суверэнітэт, на наш погляд, не столькі абвяшчэнне, дэкларaванне, колькі набытая, сцверджаная якасць. Для Беларусі суверэнітэт не толькі мэта, а і напрості і цярністы шлях. Нельга ні ў якім выпадку прамаруджваць, «стагнацыяраваць» гэтыя працэсы (у такім выпадку мы проста апынемся на ўзбочыне еўрапейскага працэсу), але нельга паскараць, дынамізаваць іх (бо гэта можа прывесці да «выбуху» экстрэмізму сярод пэўнай часткі насельніцтва). Беларускі шлях да суверэнітэту — гэта плаўны і спакойны, па-еўрапейску цывілізаваны шлях, які адпавядае непарушным традыцыям нашай талерантнасці, павазе да народаў, якія жывуць на тэрыторыі рэспублікі, які ўлічвае павольны, але няўхільны рост нацыянальнай самасвядомасці нашага народа. У адрозненне ад некаторых сіл і рухаў суверэнітэт для нас — не прадмет палітычнай гульні, што перарастае ў палітыканства, а выпакутаваны шматвяковай трагічнай гісторыяй жаданы ідэал і спадзяванне на выжыванне ў экстрэмальнай сітуацыі, у якой мы апынуліся цяпер. Па сутнасці, мы ішлі да гэтага апошнія 500 гадоў, і толькі цяпер, у канцы стагоддзя XX, рэальна набываем адвечнае чалавечае права быць гаспадарамі на сваёй уласнай зямлі.

У гэтай сувязі заканамернае пытанне аб нашых прыярытэтах у знешняй палітыцы. Тут на ПЕРШАЕ месца мы ставім пытанне, якое мае для нас лёсавызначальнае значэнне і якое датычыць чарнобыльскай трагедыі. Па сутнасці, яна аказалася каталізатарам нашага руху і суверэнітэту, выклікала да жыцця яго. Мы атрымліваем дапамогу ад саюзнага ўрада і ўдзячны ўсім, хто нам памагае ўнутры краіны. Але гэтая дапамога яўна недастатковая. І не таму, што Цэнтр не хоча, а таму, што ён не можа даць тое, што патрабуецца Беларусі сёння.

Сацыяльна-эканамічная сістэма ў нашай краіне аказалася не гатовай адэкватна адрэагаваць на буйнейшую ядзерную аварыю стагоддзя, на гэты трагічны выклік гісторыі. Сёння свае спадзяванні мы звязваем з прыняццем спецыяльнай рэзалюцыі ААН, якую я буду мець гонар ад імя 114 дзяржаў-сааўтараў прадстаўляць у Нью-Ерку, з пашырэннем міжнароднай дапамогі ўкраінскаму, рускаму і беларускаму народам.

ДРУГІ стратэгічны накірунак — ператварэнне Беларусі ў бяз'ядзерную зону і нейтральную дзяржаву. Я не буду дэталёва выкладаць гэты тэзіс, паколькі ён адлюстраваны ў маім выступленні на пленарным пасяджэнні Генасамблеі ААН 23 кастрычніка мінулага года, тэкст якога можа быць распаўсюджаны на нашым семінары. Абмяжуюся дзвюма заўвагамі агульнага характару.

1) Гэтая ініцыятыва нарадзілася не ў цішы кабінета, а па волі народа, выклікана чарнобыльскай трагедыяй.

2) Мы разумеем надзвычайную складанасць вырашэння гэтай праблемы і велізарную адказнасць і ўзважанасць нашых дзеянняў, якія павінны грунтавацца на ўліку рэалій, стратэгічных інтарэсаў нашых суседзяў.

ТРЭЦІ накірунак знешнепалітычнага курсу БССР — стварэнне палітычных умоў для інтэграцыі ў еўрапейскія эканамічныя структуры, што немагчыма зрабіць без фарміравання рынку па вертыкалі — унутры рэспублікі, і па гарызанталі — паміж БССР і бліжэйшымі рэспублікамі і суседнімі дзяржавамі. Нашы падыходы да рынку адлюстроўваюць спецыфіку Беларусі, грунтуюцца на ўзважанасці, не дэклараванні, а ўрастанні ў рынак, яго прыступкавае ФАРМІРАВАННЕ. 1 лістапада мінулага года мы пачалі гэты працэс, разглядаючы бліжэйшыя 27 месяцаў як перадрынкавы этап, у ходзе якога мы прымем каля 40 законапраектаў і сфарміруем усю рынкавую «інфраструктуру». Мы збіраемся сумленна зрабіць сродкі для вырашэння чарнобыльскіх праблем, а не проста чакаць «манны нябеснай», спадзявацца толькі на міласэрнасць і дабрачыннасць суседзяў, сусветнай супольнасці.

ЧАЦВЕРТЫ накірунак — актывізацыя двухбаковага, рэгіянальнага супрацоўніцтва, звязаны з неабходнасцю ўрэгулявання некаторых спрэчных праблем. Мы абсалютна схільныя да духу Хельсінскага і Парыжскага пагадненняў, зыходзім з безагаворачнага прызнання прымату міжнароднага права. Многія рэгіянальныя пытанні, у тым ліку і тэрытарыяльныя, для нас новыя пытанні. У большасці выпадкаў пакуль што спрацоўвае прынцып «tabula rasa». Мы прызнаем рэаліі, што склаліся, але хацелі б выказацца ў гэтых адносінах, аформіць многія пытанні на двухбаковай аснове. У шэрагу выпадкаў нам трэба проста АБНАРОДАВАЦЬ свае падыходы і ацэнкі.

ПЯТЫ накірунак — гэта больш актыўны ўдзел у фарміраванні культурнага базісу і спадчыны Еўропы, перабудова нашых узаемаадносін з суседзямі на падставе непераходных культурных каштоўнасцей і ідэалаў, агульных традыцый духоўнага жыцця. Культура па сваёй сутнасці нацыянальная, але ў той жа час яна не ведае межаў. І ў гэтым яе вялікая прыцягальная сіла, яе вялікая інтэгруючая роля і гістарычная місія. Наша культура заўсёды развівалася ва ўлонні гуманітарных традыцый Еўропы і мы маем намер ствараць умовы для свабоднага руху паміж людзьмі, абмену ідэямі і культурнымі каштоўнасцямі.

Такім чынам, азірнёмся на шлях даўжынёю ў год, азірнёмся не ў гневе. Азірнёмся ў роздуме. У нас яшчэ няма дастаткова новых цаглін, і мы вымушаны збіраць камяні з руін старых, часам разбураных занадта паспешліва, будынкаў, як гэта рабіла Усходняя Еўропа пасля другой сусветнай вайны. У нас няма яшчэ і новых канструкцый для ўзвядзення нашага агульнага дома. Але ў нас ёсць праект, які больш рэальны, чым мара, і які далёка ўжо не ілюзія.

Зараз нам патрэбны рабочыя чарцяжы, і Еўрапейскі даследчы цэнтр у Штыржыне закліканы стаць адным з тых канструктарскіх бюро, дзе могуць асэнсоўвацца новыя ідэі. Такім чынам, настаў час збіраць камяні, час збіраць ідэі і на гэтай падставе аб'ядноўваць людзей, і мы гатовы да гэтага неймаверна цяжкага, але высакароднага шляху.

26 лістапада 1990 г.

рокие и глубокие возможности дает знание обоих языков. Известно благотворное влияние латинского языка, общее для всех европейских языков... славянский же язык является древнейшим во многих государствах широко распространенных и там он часто встречается и употребляется... Многие народы пользуются славянским языком и отличаются лишь диалектами.

Другая причина моей публикации в том, что я хотел бы этим моим трудом и усилием объединить наших людей и показать им, что славянские языки не менее весомы обилием слов и изречений, не менее гибки, чем те, которые усердно изучаются».

Як бачна, Манчынскі лічыў польскую мову разнавіднасцю славянскай. Ён гэта адзначыў, абмяркоўваючы слова «дыялект»: «диалектом греки называют разновидность языка, это свойство языков совсем как в наших славянских. Иначе говорят поляки, иначе русские, иначе чехи, иначе илирийцы, а всё же это один язык».

У слоўніку Яна Манчынскага ёсць шмат заўваг пра Польшчу, пра Русь, ён спасылаецца на народныя прымаўкі і пагаворкі. Спыніўшыся на асаблівасцях граматыкі славянскіх моў, аўтар выказвае спадзяванне, што граматычным з'явам ён прысвеціць асобны твор.

Работу Манчынскага падтрымлівалі і ўзнасілі многія паэты і вучоныя з яго акружэння. Адораны вершатворац Ян Каханоўскі прысвяціў Манчынскаму шасцірадкоўе, у якім ухваліў выбар лаціны для параўнання са славянскай мовай. Паэт Якуб Любельчык у вершы, прысвечаным слоўніку, пісаў: «...Вживаясь в эту речь, в этот славный язык, столь распространенный, сколь и древний, я считаю, что свидетелем этого сегодня чехи, поляки, прусы, Москва, Русь, хорваты, словаки, далматийцы, также сербы... Все эти славные народы относятся к славянскому языку. На нем выходит много значительных произведений. Молодые люди должны несомненно упражняться по этим творениям».

Павучальная для сучаснай беларускай школы, якая рыхтуе грамадзян для суверэннай дзяржавы, высокая ацэнка, дадзеная Манчынскім і прыхільнікамі яго працы, роднасці славянскіх моў і ўплыву латыні на іх фарміраванне. Геаграфічнае становішча Беларусі, яе шматвяковыя гістарычныя сувязі з суседнімі народамі, якія карыстаюцца блізкароднаснымі мовамі і адчулі ўздзеянне культуры грэка-лацінскай класікі, робяць неабходным вывучэнне моладдзю з'яў моўнай славянскай роднасці і пачаткаў лацінскай і грэчаскай моў.

Хоць поўнае выданне лацінска-польскага слоўніка Яна Манчынскага было ажыццёўлена ў Кёнігсбергу, набор некаторых экземпляраў сведчыць аб рабоце розных друкароў пры друкаванні кнігі.

Дзеячы і гісторыкі беларускай культуры не толькі могуць ганарыцца тым, што на землях Беларусі з'яўляліся друкаваныя выданні, якія не саступаюць лепшым еўрапейскім узорам, што ў школах Беларусі выкладанне гуманітарных прадметаў пераўзыходзіла ўзровень Іаана Штурма і Яна Амоса-Каменскага, — беларускія педагогі абавязаны ўкараняць у жыццё традыцыі ўласных навучальных устаноў.

**Якаў ПАРЭЦКІ.**

---

а таксама ягоны «Метрычны запіс аб нараджэнні» і ўспаміны Я. Дылы, змешчаныя раней у кнізе «Пачынальнікі».

У байках відавочныя матывы вальналюбства, свабоды. Скажам, у «Ваўкалаку» пісьменнік паўстае чалавекам, які не прымае прыгнёту.

**Хоць галодзен — я свабодзен;**
**Гдзе мне цягне — там бягу.**
**На свабодзе прападу,**
**А ў няволю — не пайду!**

Па-новаму прачытваецца сёння і верш «Дума а Каралю XII», які нядаўна асобныя даследчыкі (не іх віна ў гэтым) гатовы былі лічыць супярэчлівым: «Дала абодвым злая фартуна сваіх дасцігці намераў: першы на Польшчу кінуў цалуны, а той расшырыў моц цараў. Трэці, на стромкай апёршысь скалі, дзе вілі гнёзды саколы, думаў праўначыць злой долі шалі, не дбаў аб цяжкі мазолі». Зразумелы, як глянуць цяпер, і паэтаў вывад:

**Будзьце ж праклятыы, палі**
**Палтавы,**
**І ты, народаў мардэрца!**

Мемуарныя запісы «З папераў Альгерда Абуховіча» — асобныя моманты яго жыцця. Цікавы раздзел «Літаратурнае апраўданне», які з'явіўся як вынік творчай спрэчкі аўтара з Ф. Багушэвічам. Голас у абарону мовы народнай, а не кніжна-дыстыляванай: «Мне перш за ўсё ідзе аб тое, каб выказаць, што я хачу, каб пачулі мысль маю і каб словы карэнныя беларускія пры помачы нашай літаратуры атрымалі як найшырэйшае абывацельства. І дзеля гэтага я не сцясняю свайго дыялекту, ужываючы словы і звароты агульнабеларускія. Гэтак паступаючы, я кладу ў літаратуру свой прыродны дыялект беларускай мовы, даючы найлепшае з яго».

Гэта слова — няйнакш у нашу сённяшнюю спрэчку, якой быць беларускай мове...

**С. В.**

---

васць праступае не толькі гонар за абаронцаў Радзімы, — апасродкавана гучыць і боль па загінуўшых;

**Трыццаць дзевяць танкаў**
**Дагаралі ранкам,**
**Бомбай разварочаны**
**палкавы бліндаж.**
**Дымам пераможным**
**Пах з дарог трывожных**
**Сіманава мужны,**
**слаўны рэпартаж.**

Поруч — дзень сённяшні. І радасны, бесклапотны, як у вершы «Возера ў бары», у якім такая моцная паяднанасць чалавека з прыродай, улюбёнасць у яе: «Гушчар зялёнага аеру, а ў ім, як люстра, сіні плёс. Я сёння трапіў на прэм'еру сярод сасонак і бяроз. Нібы смычком, кранае сэрца маланка-ластаўка крылом...» І трывожна-драматычны, калі паэт згадвае, што над роднай зямлёю пастаянна вісіць чарнобыльскі цень: «Нібы па сэрцы лупіць медзь, слязу балюча цісне. Не хмарка ў небе — гэта смерць, як хіжы ястраб, вісне» («Цяжар»). У іншым вершы — па-грамадзянску страсная пазіцыя паэта, які не прымае партакратаў і бюракратаў («Навасёлы ў андатравых шапках»): «Яны даброты п'юць нагбом у засені жыццёвых круч. Сацыялізм, як новы дом, для іх збудуй і здай пад ключ».

Непрымірымасцю да зла ў розных яго праяўленнях народжана і нізка твораў «Дробным шротам», дзе аўтар выяўляе і здольнасці гумарыста.

Чытач, пэўна, спытае: няўжо ў першым зборніку паэта ўсё так гладка? Чаму ж! Ёсць і пралікі, і каструбаватасці, і драбнатэм'е. Ды хацелася сказаць найперш пра тое сапраўднае, паэтычнае, што ёсць у кніжцы «Смага».

**А. М.**

---

**ПАБРАЦІМСТВА**

# ПЕРАКЛІЧКА СЭРЦАЎ

На здымку — двое: злева юнак з мяккімі рысамі твару, у лёгкім паліто, у звычайнай кепцы. Справа — такога ж узросту, чарнабровы, з крыху суровым позіркам, засяроджаны. На галаве сівая, як у парубка, набакір шапка. Паліто з авечым каўняром. Абодва — Уладзіміры. Беларус Дубоўка, украінец Сасюра. Пешаму — дваццаць пяць гадоў, другі старэйшы на два гады. Здымак пазначаны 1925 годам. У тым жа годзе У. Сасюра ўпершыню наведаў Беларусь і як бы ў пацвярджэнне тых адведзін — публікацыя яго вершаў у часопісе «Маладняк». Зразумела, на той час і прыпадае згаданы здымак, а што У. Сасюру цёпла сустркалі беларускія «маладнякоўцы», сумнявацца не даводзіцца. Гэта знайшло сваё адлюстраванне і ў вершы:

**Я між лісамі Білорусі,**
**Я між болотяних огнів.**
**Холоне синь. Зоря над гаем,**
**Не одцвіте вона ніяк.**
**І дерева в снігу хитае**
**Веселий вітер — «Молодняк».**

Пабываў на прыродзе, а потым і выспелілася:

**Стою й ніяк не надивлюся,**
**У вітру лине снігу сміх...**
**Це ж я в білявій Білорусі**
**З ланів повстання голубіх.**

Тады ўжо беларускі чытач ведаў У. Сасюру — у часопісе «Полымя» ў 1924 годзе быў надрукаваны артыкул пра яго зборнік «Места». А згадкай аб першым знаходжанні на зямлі суседзяў і сталі вершы, а таксама здымак з «бялявым беларусам» У. Дубоўкам.

Пра свайго цёзку мне недзе ў пяцідзесятых гадах і расказваў Уладзімір Міхайлавіч, прачытаў верш «О Беларусь, мая шыпшына», напісаны ў 1926 годзе. Я пацікавіўся, ці не перакладаў гэты твор Уладзімір Міхайлавіч. Ён адказаў станоўча, але пашкадаваў, што недзе загубіўся пераклад.

Нібыта гэты верш, ды яшчэ некаторыя, сталі прычынай арышту паэта. Тады я таксама паспрабаваў перакласці «арыштаваны верш» — яго на той час не друкавалі на бацькаўшчыне, як і не згадвалі і аўтара. Мы дзівіліся з Уладзімірам Міхайлавічам, што нават такія ўзвышаныя словы, як «камуны свет», што ёсць у вершы, не ўратавалі паэта. А што гэты твор надзіва папулярны, я пазней пераканаўся, бываючы ў гасцях у беларускіх сяброў.

Другі раз Уладзімір Сасюра быў запрошаны на Беларусь у маі 1928 года літаратурным аб'яднаннем «Полымя» і таварыствам культурных суполак Мінска. Тады ён напісаў верш «Беларуская грамада», прысвяціўшы яго беларусаам, якіх судзілі ў Заходняй Беларусі пры Пілсудскім. Цёпла згадвае ён, магчыма, якраз пра гэтае сваё знаходжанне ў братняй рэспубліцы: «Я блізка пазнаёміўся з цудоўнымі і светлымі Чаротам, Дубоўкам, Александровічам, не кажучы ўжо пра Якуба Коласа і Янку Купалу» («Трэцяя рота»).

Уладзімір Дубоўка, у сваю чаргу, любіў лірыку ўкраінскага пабраціма, перакладаў яго вершы. Прасіў Міколу Аўрамчыка, які быў складальнікам зборніка яго твораў, гэтыя пераклады змясціць у новым выданні.

Сасюра рэдка выступаў з артыкуламі, але ахвотна выкарыстаў адзін з відаў публіцыстычнага жанру, калі меў магчымасць бліжэй пазнаёміцца з Я. Купалам і напісаў артыкул «Наш Янка».

Калі трэці раз Уладзімір Міхайлавіч быў госцем Беларусі, успомніў тых, каго не мог сустрэць ужо. Сярод іх і У. Дубоўку. І пакінуў добра вядомыя цяпер аматарам украінскай паэзіі такія радкі:

**Білорусь, ти, як сонце зі мною,**
**Як юнацкії мрії мої.**

І асабліва гэтыя:

**Добрий день, добрий день,**
**Білорусь,**
**Синьоока сестра України,**

Гэты верш на беларускую мову пераклаў М. Хведаровіч, які вярнуўся з далёкай доўгатэрміновай высылкі.

Неяк узяў я ў рукі падараваную Я. Брылём кніжку «Жменя сонечных промняў». Разгарнуў яе наўгад, чытаю: «Кусты шыпшыны трапляюцца на схілах яраў ды на ўзлобках, ніколі не араных, падобных на агромністыя баханы. У калючым сярэбраным голлі яшчэ ўсё трымаюцца, таксама заінелыя,



аранжавыя зморшчаныя ягады.

Як светлы сон, успамінаецца тут, каля іх, матылінная ружовасць пялёсткаў, пчаліны звон і ласкавае сонца... Успамінаюцца і радкі:

**О Беларусь, мая шыпшына!..»**

Колькі паэтычных вобразаў знойдзена паэтамі Беларусі пра свой край, а вось згадалася шыпшына Дубоўкі. Нейкая магічная сіла быццам такога звычайнага параўнання!

Неяк пры сустрэчы Уладзімір Міхайлавіч зноў згадаў пра беларускага сябра:

— І я пісаў пра шыпшыну:

**Рвав восени я шипшину, карії**
**очі любив...**

— Ведаю гэты ваш верш, напісаны яшчэ ў 1923 годзе.

— Але. Даўні верш. І пазней, у трыццатых, напісаў я мініяцюрку, якая так і называецца — «Шыпшына» і «Зацвітай, моя шипшино, в опівнічному огні...» Але вобраз Дубоўкі больш значны. У мяне толькі лірычнае апяванне месца, дзе я жыў. Мой цёзка нарадзіўся ў вёсцы на Віцебшчыне. Я — у Данбасе, дзе таксама расце шыпшына. Дык у яго «вырасла» шыпшына сацыяльная. І як кранаецца сэрца калючая галінка: «Твоіми пелюстками стану, голками серце наколю...» Цудоўны верш!

— А «Любіць Украіну» хіба ж не мае вобраз гэткай сілы:

«Любіть Україну у сні й наяву, Вишневу свою Україну...» Тут і сацыяльная сутнасць, і высокія эмоцыі...

— Цяпер так і крытыкі пішуць. А што раней прыпісвалі мне вялікія грамацеі? — Ён хваравіта ўсміхаецца: — Кажуць, што ўжо вярнуўся Уладзімір Дубоўка з высылкі. Не пазнаць яго, з вялікай сівой барадою... Можа, і не пазнаў бы...

Размова гэтая адбылася ў 1959 годзе.

«Любіць Украіну», як казаў мне Мікола Аўрамчык, укладальнік выбраных вершаў У. Сасюры, што выйшлі потым у Мінску, захацеў перакласці У. Дубоўка, але на той час ужо быў пераклад Максіма Танка.

— А ці давялося вам потым сустракацца з Дубоўкам? — яшчэ праз год-другі пацікавіўся я ў Сасюры.

Уладзімір Міхайлавіч адказаў:

— На жаль, не. Не выпала...

Сасюры не стала ў 1965 годзе, Дубоўка памёр у Маскве ў 1976-ым...

Зусім нядаўна прачытаў я ліст Івана Юхімавіча Сенчанкі, адрасаваны У. Дубоўку і ўпершыню апублікаваны ў «Литературной газете» да 90-годдзя нашага слаўнага празаіка. Ён, як вядома, выдаў і адзін зборнік вершаў «У агнях вішнёвых завірух». І, па ўсім відаць, яшчэ з юнацкіх гадоў быў знаёмы з беларускім паэтам. З хваляваннем чытаю: «Калі б хто сказаў Вам, што я памёр ужо, а я паміраю — не вельмі верце гэтаму. Мне 74, я абцяжараны кіпай усялякіх хвароб, але ніколі не адчуваў сябе за сталом, як цяпер, як некалькі гадоў назад, калі працаваў над новай кнігай, якую Вы трымаеце ў руках. Дух мой ясны, думка пругкая. Гэта адразу Вы адчуваеце, як перагорнеце хоць колькі старонак маёй новай аповесці «Саўка». Пісаў я яе — як на крылах ляцеў...»

Ліст гэты да У. Дубоўкі І. Сенчанка напісаў у 1974 годзе — за год да сваёй смерці і за два да смерці Уладзіміра Мікалаевіча.

Можна толькі пашкадаваць, што пры сустрэчах з Іванам Юхімавічам не зайшла гаворка пра У. Дубоўку — сябра У. Сасюры і, як высвятляецца, даўняга сябра Сенчанкі. Пэўна, ад яго б я даведаўся пра невядомыя старонкі жыцця сына Беларусі, паэта і перакладчыка яго ўкраінскіх пабрацімаў — Тычыны, Рыльскага і свайго цёзкі — Уладзіміра Сасюры.

**Алэкса ЮШЧАНКА.**

Людміла ХЕЙДАРАВА



# ТРЫПЦІХ ДУШЫ

## 1. Зямное прыцягненне

**Як вынесці душы сваёй святло**
**З умоўных нашых ісцін поля бою!**
**Я знаю: слова моўленае — зло,**
**Але дабра ў нямоўленым — не болей.**

**Я знаю: слова моўленае — лёс,**
**Са словам тым народжана сама я.**
**Душа мая, ты ўся наскрозь зямная,**
**Але Зямля — нябёсы для нябёс.**

## 2. Прыцягненне неба

**Калі зара пажухне за курганам**
**І згасне дзень — звычайны Божы цуд,**
**Нібыта зыб праходзіць па жыццю**
**І ноч туманіць голаў дурнап'янам.**

**Здаецца мне, што вось, у гэты міг,**
**Душа ірве бязладнасці аковы,**
**Каб зліцца з першароднаю асновай**
**І прычасціцца таінстваў сваіх.**

## 3. Дома

**Зямное плоці варта і астрожнік —**
**Выгнанніцай — у край свой праз мяжу,**
**Як праз мяжу нябыту, асцярожна**
**Узіраюся ва ўласную душу —**

**Край, дзе жыццё яднаецца са смерцю,**
**Дзе ўсё яны —**
**Хрыстос,**
**Іуда,**
**Хам,**
**Дзе па сабе — сабе будуем Храм,**
**Хто — са святла,**
**Хто — з цемры,**
**Хто — са смецця...**

●

**Каб вытрываць цяжар зямной красы**
**І грубай сілы векавых містэрый,**
**Мы слухаем нябёсаў галасы,**
**Скажоныя зямною атмасферай.**

**І логікаю праха — робім прах,**
**Сізіфаў камень коцячы да змогі —**
**Матэрыі хаос часоў да Бога**
**У крыві, смуродзе, брудзе і страсцях.**

**У свет глядзім праз розума акенца.**
**Хто бачыць сад, хто неба, хто сцяну —**
**І кожны толькі частачку адну,**
**Сімфонію выводзячы са скерца.**

**Навошта чалавеку розум рэчаў!**
**...Бажба, кляцьба, праўдзівасці зарок...**
**Ці на прарока знойдзецца прарок,**
**Які б не перайначыў голас вешчы!**

**Палоннік ты, ці месія зямнога,**
**Зірні, што зараз бачыш у акне —**
**І не лікуй па часе перамогі,**
**Яны бывалі ў свеце і раней.**

●

**На ўсіх — адзін свабоды жах,**
**Адны законы і маленні:**
**У неба вырвецца душа —**
**Дык цела стане на калені...**

●

**Як часта я не там бывала,**
**Дзе вы мяне маглі пабачыць,**
**Сустрэць і гутарыць са мною,**
**І неяк дзіўна ставіць подпіс,**
**Што ты вось тут быў, а не дзесьці —**
**Адно вядома ў гэтым свеце,**
**Што ты радзіўся і памёр.**

**Адзіны Цар і Суд адзіны**
**Ёсць над Зямлёй і цэлым светам,**
**І я дзіўлюся на загады**
**Пра ўзнагароды і спагнанні,**
**Аб залічэнні ў штат, бы ў світу —**
**Нібыта ёсць, бывае світка**
**З пляча Нябеснага Цара.**

**Аднак інакш дзіўлюся Слову,**
**Непазнавальнаму, жывому,**
**Яго пamкненню, што змушае**
**Зірнуць у свет уласных душаў**
**З мальбою, клятвай ці праклёнам**
**І свет стварыць сваім законам —**
**Яму дзіўлюся і служу.**

---



*Аляксандр Крыванос*

# ВОШЫ

*апавяданне*

**Аляксандр Крыванос ужо знаёмы нашаму чытачу. У «ЛіМе» друкаваліся яго артыкулы «Памяці «хлопцаў апошняй вайны», «Апаленыя зярняты», дакументальны нарыс «Па тэрміне службы».**
**Гэтым разам прапануем увазе чытачоў апавяданне Акяксандра Крываноса.**

ЖОНКА здзівілася:

— Вошы? У цябе былі вошы?

— Ага. З кулак велічынёй,— пацвердзіў Матушкін, імгненна зрабіўшы прыдуркаваты твар: па-блазенску прыплюшчаныя вейкі, скрыты, затоены на дне вока смяшок.

— Сур'ёзна?

— Яшчэ б! Яны шасталі па мне, як мышы па праспекце.

— Смяешся, так?

Абыякава пазяхаючы, Матушкін адпіраецца:

— Чаго не скажаш жартам у размове!

Жонка раптам сур'ёзна кажа:

— Гавораць, вошы—ад пакуты.

І вось гэтыя словы—такія простыя, жахліва знаёмыя — і б'юць халадком адкрыцця ў сэрца, і выпінаюць яго за парог. І ўспамін запальвае і камечыць у зубах цыгарэту.

Што ён рабіў у той дзень?

З•раніцы, мабыць, шараваў смярдзючай хлоркай падлогу, вылізваў яе ў модулі са сваім прызывам—«духамі»*. Колькі іх засталося, дахадзягаў,—брудных, салёных ад поту і слёз хлапчукоў? Для роты прызыў «духаў» быў немалы—трыццаць сем чалавек. З іх шоргалі падлогу чалавек дванаццаць. Ці меней? Ён гэтага не памятаў, ён ведаў, што на ранішнім прыбіранні памяшкання, — здаецца, так гэта гучыць у статуце,—іх было не болей. Астатнія дваццаць пяць былі ў шпіталі. З жаўтухай, тыфусам, малярыяй. Часам з трыма хваробамі адразу — з букетам, як казалі. У адным целе, пры адной душы... Ён зведаў на сабе, што такое шпіталь, дзе сабраліся не толькі інфекцыйнікі, але і з кулявымі, з асколачнымі раненнямі, з цяжкімі кантузіямі. Яму пашчасціла пабываць там усяго з лёгкай дызентэрыяй — дзён восем, але і за такі кароткі час ён нагледзеўся, як здзекуюцца з чалавека, ператвараюць яго ў быдла. Хворай душой ён разумеў, што ў шпіталі было кепска, але ў гарнізоне—таксама невыносна.

Не, ён забыўся: «духаў» ніяк не магло быць дванаццаць. Іх было меней: двое цягнулі службу ў каравуле, адзін — днявальным па афіцэрскім модулі—прыслугай шакалаў **, яшчэ адзін — пасыльным у дзяжурнага па часці і памдзяжа. Значыць, іх было восем? Так, падобна. Восем хлопчыкаў, што поўзалі пад жалезам армейскіх ложкаў на ўсохлых жыватах, на абручах рэбраў, на вугольніках локцяў...

Ізноў памылка: «духаў» не магло быць восем. Хоць бы трое мусілі задавальваць ненасытныя патрэбы старaслужачых: падносіць ваду, памагаць мыцца, здабываць лёзы для галення, а для аматараў чарсу і гераіну—запалкі.

Значыць, «духаў» было не больш як... Чакай, чакай, ён зусім забыўся на шухер — яшчэ адзін ці двое мусілі стаяць на варце. Значыцца, на падлозе памірала не больш за тры-чатыры чалавекі. Іх і падганялі тоўстаскуранымі паўботамі пад жывот, упэўненым тычком кулака ў сківіцу, выразным жэстам двух растапыраных.

Вочы паступова выцвіталі, муціліся. Што яму заставалася рабіць? Згвалтаваць душу? Засіліць яе на калянай вяроўцы подлых законаў казармы? Упусціць муць бязмозглае пакоры ў свае блакітныя, незапэцканыя вочы? Нічога з гэтага ён не хацеў, нічога не прымаў. За гэта яго апрацоўвалі асабліва доўга. Як шакалы, так і старaслужачыя. Шакалы цынічна выпытвалі, ад чаго ў яго россып сініх падцёкаў па целе. Можа, ён упаў? Можа, пабіўся? Ці не патрэбна яму дапамога? Ён маўчаў. Бо ведаў, што адно праўдзівае, выпадкова выпушчанае з вязніц душы слова прымусіць шакалаў вытурыць яго з часці. І тады—усё, гамон. Радавога Матушкіна—чмыра, караслівага тормаза з недаспелым гарбузом на тонкай шыі—закінуць на якую-небудзь далёкую кропку, дзе яго пастараюцца даканаць—калі не душманы, то свае. Ён памятаў, што некалькі чалавек ягонага прызыву ўжо служылі недзе пад Хостам, Баграмам, Кандагарам. Яны былі стукачамі.

Стукачы не былі патрэбны камандаванню часці.

Камандаванне часці баялася за сваю скуру.

Камандаванне часці не выносіла лішняй інфармацыі.

Камандаванне часці паважала маўклівых салдат.

Камандаванне часці пазбаўлялася ад сведкаў.

Так было спакайней; уся надзея ўскладалася на калектыў.

Калектыў самарэгулюецца, жыве.

Камандаванне часці толькі накіроўвае ягоныя дзеянні ў патрэбнае рэчышча...

Матушкін маўчаў. Ён агарадзіў душу плотам недаверу, таленавіта корчыў дурня, прыклеіўшы на твар маску недатумка ад нараджэння. Адны ўцякалі, другія, выслужваючыся, надрываліся, трэція страляліся ці вешаліся. Матушкін выбраў свой шлях: ён быў артыстам паміраючага аблічча. Яго жорстка білі за тое, але рэдка змушалі да агіднае паднявольнае працы. Яго проста мясілі за непрактычнасць, нявыцвілыя вочы, за бездапаможнасць. А ён думаў і баяўся жыць далей. Ён не мыўся і не чысціў зубы чацвёрты месяц. Рукі яго нагадвалі суцэльныя шнаравідныя раны, якія ад бруднай, рабскай працы аніяк не зацягваліся тонкай плёнкай скуры.

Матушкін думаў. І як ні стараліся знішчыць у ягоным кволым птушыным арганізме стоенае пад аблічам прыдурка вальнадумства,—ён не паддаваўся: лепш ужо быць заўсёдным ідыётам, бесталковым тормазам...

Дні маршыравалі ў патыліцу адзін аднаму. Шэрагам, па адным. І Матушкін баяўся: што, калі заўтра ён здрадзіць сабе, не вытрымае, надломіцца? Таму ён і не загадваў на заўтра, а жыў днём сённяшнім. А сёння, дакладней, яшчэ шмат дзён назад, Матушкін выявіў: у яго вошы. Але ён не хацеў думаць пра вошы — Матушкін думаў пра чалавека.

На дзень яго білі па некалькі разоў. У запас. Дзеля папярэджання. Ён прыцярпеўся да ўдараў. Палохала яго не біццё, а сам працэс біцця—тая слодыч падрыхтоўкі да яго, пры якой жорсткасцю жывёльнага экстазу дыхаюць чалавечыя твары. Кожны новы ўдар быў прыступкай уніз, куды ў пошуках чалавечнасці спускаўся Матушкін. Яшчэ тлелы гонар прыніжанага чалавека прагнуў пазнання агульнага сэнсу жыцця. Матушкін больш за ўсё і баяўся ступіць на апошнюю прыступку і канчаткова амярцвець. Той дзень пакуль што не прыйшоў. Матушкін яшчэ не намацаў няпэўнай нагой тую жахлівую прыступку, пасля якой ці аўтамат у рукі—і ў горы, ці зміpыцца і стаць, як усе, ці—кулю ў лоб.

Тым днём усё павінна было вырашыцца.

А вошы заядалі. Страціўшы кантроль, рукі разрывалі цела даўгімі крывавымі пісягамі. Матушкіна скаланала ад аднае думкі, што хто-небудзь са старaслужачых даведаецца «пра гэта». Акрамя таго, што яго жорстка, з чалавечай фантазіяй будуць біць, што з-за яго застрояць увесь прызыў,—акрамя ўсяго гэтага, радавога Матушкіна пазбавяць сну, прымусяць прасаваць хэбэ, мыцца, стрыгчыся, а ён і так ужо недасыпаў не першы тыдзень, валіўся з ног, паміраў. Не, Матушкін не быў вар'ятам: ён адчайна марыў прывесці сябе—нарэшце!—у людскі выгляд, але вопыт ягонага тутэйшага жыцця рэальна паказваў—гэтага яму зрабіць не дазволяць. Тыя ж дзяды і дэмбелі *, што адмалоцяць яго за вашывасць, праз хвіліну прыпяюць Матушкіна да іншай справы: заварыць гарбату, злятаць па хлеб у хлебарэзку, паднесці цыгарэту ў ложак, прыгатаваць камус **.... Не было ніякіх сумненняў: варта каму з дзядоў даведацца пра вашывасць Матушкіна, і яго даканаюць. Канчаткова. Ён бачыў гэта сваім стомленым сэрцам. Таму, калі чужы пракляты дзень пачаў канаць у крывавых сутаргах заходу, калі пыл крыху асеў і захаладзелае паветра ўжо ўдыхалася без напругі, калі цяжкі стогн страявой песні ў некалькі петушыных глотак «духі» панеслі ў далеч, Матушкін, пакутуючы ў сарціры жыватом, вырашыў не спакушаць лёс—ахвяраваць цела вошам і не ісці ў лазню. Да таго ж, згодна з няпісаным законам, некалькі «духаў» заўсёды заставаліся на пасылках у казарме ў час агульнай лазні; у дзядоў і дэмбеляў быў іншы расклад—у лазню яны хадзілі, калі хацелі.

У казарму ісці было страшна, але не пайсці ў гэтае фанернае памяшканне, дзе асабліва па начах цяжка смярдзела анучамі, шкарпэткамі, чалавечым потам і міязмамі, было проста немагчыма: больш ісці не было куды, а чалавеку, як казаў вялікі класік, заўсёды трэба куды-небудзь ды пайсці. І Матушкін пайшоў у казарму.

У той дзень дзяжурным па роце заступіў Валошын, сярэдняга, нават малога росту каржакаваты дзед з бычынай тупасцю ці тугой у круглым прарэзе шкляных зрэнак.

— Ты адзін?—пацікавіўся ён. І абкурана гыркнуў:— Дзе астатнія «духі»?

---

* «Духі» — маладыя, амаль што непаслужыўшыя салдаты.

** Шакалы — на афганскім жаргоне—афіцэры.

* Дэмбелі — як і дзяды, старaслужачыя салдаты.

** У афганскім жаргоне — наркотык (чарст альбо гераін).

# Брама агню

Нібы стаю ля нейкай рысы.
Узнёслы страх. І строгасць Меккі.
І не стуліць гарачых вейкаў,
Пакуль агонь мігціць у прыску.

І адкрываю свет без ценю.
І час цячэ нібыта звонку.
Замру, і ў чуйным аняменні
Агонь з агнём пачне гамонку —

І так сумоўна, так усцешна,
Вышэй ад жалю і мілосці,
То аб Любові — у Бязмежжы,
То пра Бязмежжа Прыгажосці...

●

Ты бачыш толькі тое,
на што скіроўваеш пагляд.
Ты асэнсоўваеш толькі тое,
пра што думаеш.
Ты адчуваеш толькі тое,
што перажыў сам...—
Пра што ты ні думаеш,
ты думаеш пра сябе.
Куды ты ні скіроўваеш пагляд,
ты скіроўваеш яго на сябе.
Што ты ні ствараеш,
ты ствараеш сябе...—
Можаш сказаць: «Няпраўда»...

●

Як мужна ўсё ў прасторах вышыні!
Адкінуўшы апоры і асновы,
Ляцяць у бездань зорак прамяні,
Каб недзе ў цемры выбухнуць звышновай.

О, як чакала Чорная Скала
Тых зорак, што прадраліся скрозь церні!
Хто падымаўся да вышынь святла —
Таго кідала да вытокаў цемры.

А нас тут слепіць сонца, як і ноч.
Мяжуем Ісціну, не дбаючы аб цэлым.
І некаму вышыні нашы — дно,
Для некага прасторы нашы — сцены.

●

У кожнае меры — ёсць нешта астрожнае.
Як выпала ў жыцці зямная дарога —
Прайдзіце як Бог — улюбёнымі ў кожнага
І хоць аднаго палюбіце — як Бога.

Насустрач вытоку, да Першапрычыннага,
Насуперак плыні, вытокі — уверсе,
Прайдзіце, у свеце няма немагчымага,
Ступіце за кропку — бязмежна паверце...



Фота С. ГРЫЦА.

— Не ведаю... У лазні...

— Э-э, Вол, яны прыпухлі! — данеслася з глыбіні казармы.

— Я ім сёння зраблю лазню, — працадзіў Валошын. — Пяты будуць лізаць!

Валошын адвярнуўся, закурыў і, нечакана, развярнуўшыся, адпрацавана тыцнуў рукою ў грудзі Матушкіна. Той адляцеў да сцяны, скурчыўся, захрыпеў.

— Ну! — сказаў Валошын. — Вырадак! — І рыбіныя вочкі яго задаволена зацяпліліся пад буграмі асмаленых рудых брывоў. — Чаго паміраеш, чмо? Чапаць не буду. Ідзі сюды.

Матушкін баязліва ўстаў, падышоў.

— Дык вось: я толькі што адправіў у санчасць Француза, — сказаў Валошын. — Па мазь. У яго вошы. — І падазрона спытаўся: — У цябе часам няма? Га?

Сэрца Матушкіна адарвалася і па слізкіх прыступках нерваў пакацілася ўніз.

— Не, — схлусіў Матушкін, — у мяне няма.

Валошын глянуў на яго з пагардай.

— Глядзі — праверу. І давай мыцца, падла. Усім сваім перадай: у казарму строіцца!

Матушкін з палёгкай нырнуў у дзверы. Быццам яго і не было: знік, выпарыўся, баючыся, што аклікнуць, ернуць назад. Каб быць далей ад бяды, ён абагнуў два пасты на лагчыне ўздоўж іржавай калючкі, памкнуўся быў да каравулкі, пад массеццю якое на нізкім падмурку і прысела самаробная лазенька, але, не дабегшы да яе метраў дзвесце, апусціўся на камяністую глебу за сопкай. Каб здалёк не заўважылі, закурыў у кулачок.

Прагна стукалася ў голеныя скроні думка, нецярпліва зацягвалі нікацін губы, гаркотай сціскаў дурман устрывожаныя сасуды.

За міннымі палямі, над перавернутай дарогай, у малітве адвечнага намазу навіслі горы. Па дарозе пад бадзёры марш духавых труб ішлі на баявыя. І вярталіся...

Матушкін прыцісնуў стаптаным паўботам недакурак і паплёўся ў лазню.

Са смяротнай тугой успрынялі «духі» патрабаванне Валошына, змрочна пакасавурыліся адзін на аднаго дый падаліся хутчэй у казарму. Некалькі чарпакоў *, не жадаючы быць бітымі, кінуліся следам. А Матушкін... Матушкін тым нешматлікім дзядам, што пажадалі мыцца ў гэты вечар з ротай, шураваў бронзавыя спіны, падносіў ваду, парэпанымі пяткамі вытанцоўваў на слізкай бруднай падлозе. Ніхто не заўважаў, ніхто пакуль што не прыглядаўся да Матушкіна. Ён лятаў, ён мітусіўся. І толькі чуў:

— Шарыш, братан!
— Ты што падаеш, вырадак?
— Бегма!
— Чаго паміраеш?
— У рэйдзе зашарыць, чмо!

Мастак не паміраў у ім. Казармавы талент ствараў трагікамедыю на тэму: малады салдат у лазні са стараслужачымі пасля дзённага выканання інтэрнацыянальнага абавязку.

Нечаканы ўдар падсек яго, кінуў ўбок, распластаў ля смярдзючага вадасцёку. Праз распухлае, звонам перапоўненае вуха боль, як сараканожка, кінуўся ў галаву, учапіўся ў мозг. Але — на душы стала лягчэй. Так заўсёды чамусьці было: прыходзіў першы ўдар — і знікала стоеная напружанасць, адлятаў страх.

Матушкіна збіў з ног Валошын. Ён звесіў над ягоным скурчаным целам бычыную галаву і глядзеў, нібы пытаўся: «А ты думаў, я не прыйду? Ты думаў, я не праверу?»

— Вошы гадуеш? — спытаў ён і павярнуўся да чарпакоў. — Чарпакі сёння строяцца!

Чарпакі вачамі елі зняможанае сэрца Матушкіна.

— Чарпакі сёння строяцца і прыбіраюць казарму! — паўтарыў Валошын, дадаючы самае істотнае.

І далей было, як у запаволеным кіно.

...Пагарджаны і прыніжаны Матушкін падымаецца са слізкай падлогі, непаслухмянымі шурпатымі рукамі абмывае разбітыя губы, пад пляўкамі пагроз апранаецца і спяшаецца ў санчасць. Праспіртаваны фельчар — за вочы званы Ветэрынарам, знішчае яго кплівым поглядам:

— Ніжнія шмоткі спаліш. Верхнія — праварыш. От табе мазь: мала будзе — прыйдзеш яшчэ...

Ён вярнуўся ў казарму, калі ўжо сцямнела, пасля вячэровай праверкі. Чарпакі ашалела мітусіліся на падлозе, шаравалі апантана. Хвіліну назад яны яшчэ корчыліся і глуха ўскрыквалі пад ударамі дзядоў.

Ды вось грымнуў час і для «духаў». Азлобленыя чарпакі ўсю моц свайго прыніжэння ўклалі ў павучальнае біццё. Аблегчылі душу. Адышліся. І зноўку, як прусакі з павучыных кутоў, спаўзліся на спажыву абкураныя дзяды.

Хлыстамі крывенькіх ножак прабегся ўздоўж шэрагу, гулліва памахаў кулачкамі — «Кантужу, вырадкі!» — дробны дзядок Лукша, моцны магічным страхам слабых.

Маўчком і бясстрасна бурыў шэраг пудам кулака ляўша Камкоў — да пят з'едзены чарсам амбал.

З пачуццём абавязку, хоць і не без гідоты, прарываў то левай, то правай далонню марную траву шэрагу Лузгаеў — перакананы таварыш армейскага ўдасканалення.

Баязліва, а таму не на поўную сілу палохаў прыпухлых «духаў» кандыдат у капээсэсаўцы сяржант-дзед Крывіцкі.

Не паважаны, маўклівы дэмбель Жукаў «спаў» на ложку пры дзвярах, варочаўся ад шуму, мярцвеючы ад думкі пра дэмбельскі акорд.

На верхнім ярусе засяроджана маліўся, звяртаючы да Бога набалелае сэрца, зачмыраны дзед Яфімчык — баптыст, які адмовіўся прыняць у рукі аўтамат, асуджаны за тое на сталоўскія адкіды, неаднойчы біты нават «духамі», замаслена-брудны, пагарджаны чалавек.

А Валошын вярнуўся ў казарму з народжанай, але не аформленай ідэяй.

Ужо і чарпакі пазатойваліся, скурчаныя страхам, пад потнымі прасцінамі, і дзяды распаўзліся, хто ў нарды змагацца, хто камусь даганяць, а Валошын выдумляў, трызніў, дбаў. Пружыніста пахістваючы азадкам, некалькі разоў запар праплыў ён уздоўж шэрагу. Нарэшце ў мазгаўні ягонай нешта выспела.

— Матушкін, Француз — сюды! — унушальна гікнуў ён.

Абыякавасць і спустошанасць выштурхнулі Матушкіна з шэрагу. Не было ні страху, ні нерваў, ні жадання. Усё разам загінула ў ім. Толькі стома прасочвалася скрозь пласты здранцвення. Толькі стома...

З дальняга флангу праціснуўся і вашывы Француз, той самы, пра якога гаварыў Матушкіну Валошын. Француз выйшаў і застыў з краю. Гэта быў высокі, нязграбны салдат у кароткай фланцы *, з прашмараваных рукавоў якой звісалі брудныя далоні. Продкі ягоныя мелі прозвішча Лур'е, але казарменныя дасціпныя языкі звычайна выцэджвалі адно мянушку — Француз. Француз баяўся. Яго пакуль што не дацягнулі да таго прадоння здзеку, пасля якога ўжо ўсё роўна.

— Гэ-э, тормаз! Чаго стаў? Бегма сюды! — са здзеклівай насмешкай прагучаў пракураны голас Валошына.

Запалоханы да дрыжыкаў у нагах, Лур'е дробна падышоў да Валошына. Нечакана той тыркнуў яму кулаком у шыю. З хрыпам Лур'е рухнуў на шэраг «духаў». Тыя падхапілі яго, падтрымалі.

— Ты! — не даючы яму агойтацца, зароў Валошын. — Я што сказаў — бегма!

Не пярэчачы, Лур'е баязліва прытрушкаваў да Валошына, вінавата стаў побач з Матушкіным.

— Забіць цябе, ці што? — міла запытаў Валошын.

— Не...

— Чаму вошы завёў, га?! — Зноў удар, яшчэ ўдар, і ўжо звяртаючыся да ўсіх «духаў»: — Я вас, вырадкі, навучу! Вы ў мяне зашарыце!

Француз апусціў галаву. Ён плакаў. На яго агідна было глядзець.

— Так, Француз, так... — сказаў Валошын, працягваючы ўшыты азадак двойчы ўздоўж шэрагу. — Так... — неакрэслена паўтарыў ён і імгненна спытаўся: — Ты чаму не памагаеш свайму братану?

— Я памагаю, — тужліва прамармытаў Лур'е.

Удар. Яшчэ раз.

— Не люблю, калі шмат гаварыць, — растлумачыў Валошын. — Не гавары — рабі!

— Што рабіць?

Удар.

— Рабі, што кажуць, замок! — Валошын падштурхнуў Лур'е да Матушкіна. — Нагінай свайго братана на калабаху, ну! Бегма! Чаго стаіш, чаго?!

«Мярзотнік, — падумаў Матушкін, — гніда».

— Канчай прыколвацца, Вол! — данеслася з дзядоўскага кута.

— Ну што ты да іх ...ся!

— Зараз! — адмахнуўся Валошын. — Час пайшоў, Француз! — папярэдзіў ён.

Лур'е паміраў і супраціўляўся паміранню. Біць свайго аднагодка, прызыўніка ён не хацеў. Калабаха — гэта не проста ўдар. У ім асаблівае прыніжэнне. Чалавека перш трэба прымусіць сагнуцца, замахаць, як вятрак, рукамі, а потым з размаху кулаком па пакорлівай салдацкай шыі... Гэтага Лур'е баяўся, гэтага ён рабіць не хацеў!

— Ну! — пагрозліва запатрабаваў Валошын. — Француз, я не люблю паўтараць!

«Духі» абамлелі. Сэрца Лур'е трымцела ў грудной клетцы. Француз павярнуўся і нерашуча ступіў да Матушкіна.

«Вось і ўсё», — безгалоса прастагнаў Матушкін. І хваравіта-весела сказаў:

— Давай, Француз, давай! Бі па кумпалу! — І нахіліўся нават, блазнуючы, узмахнуў рукамі. І адразу ж выпрастаўся. Стоенае жывое пачуццё прарвала запруду прыніжанай, блазнаватай абыякавасці. І яно, гэтае пачуццё — цёплае, сапраўднае, з самога нутра — вярнула яму сілу.

— Гады вы ўсе! — закрычаў ён і схапіў табурэтку. — Гады! Я вас усіх пазабіваю, падлы! Толькі краніце мяне! Толькі паспрабуйце!

Як гэта было трагічна-смешна: уначы, далёка ў Афганістане, стаіць у модулі бездапаможны чалавек і на поўны голас крычыць пра сваю нянавісць да інтэрнацыяналістаў камуністычнай фармацыі...

Не чакалі ад Матушкіна такога дзяды. Не чакалі і тым больш не думалі. Але апамяталіся: паўскоквалі з коек, паваліліі спрытнымі ўдарамі, пакацілі нагамі — не шкадуючы, злосна, люта. Заабураліся:

— На дзеда руку падняў!

— Падлюк!

— Служба мёдам здалася!

— Мясі яго!

Так бы, можа, і замалацілі, ды ўляцеў у казарму спалоханы «дух», прыглушана ўскрыкнуў:

— Шухер!

На наступны дзень, калі сонны Матушкін пад патэльняй капота корпаўся ў засмечаным жыклёры, да яго падышоў Лур'е, нехаця стрэльнуў закурыць.

— Ведаеш, — сказаў ён, зацягваючыся, — учора я мог бы цябе і ўдарыць.

— Ведаю, — сказаў Матушкін. — Ведаю, але не хачу аб гэтым думаць...

---

* Чарпакі — салдаты, якія адслужылі адзін год; ранг пасля «духаў».

* Фланка — куртка хэбэ.

ТЭАТР

# ПЕРАДУСІМ—УДАСКАНАЛЕННЕ ДУХУ...

**Тэатр-студыя пад кіраўніцтвам Рыда ТАЛІПАВА пераажыла ўжо скрутныя часы рэарганізацый і змены акцёрскіх сіл, захаваўшы ў рэпертуары тры спектаклі, а таксама падрыхтаваўшы дзве прэм'еры. Са спектаклем «Стрып-тыз» С. Мрожака студыйцаў запрасілі на некалькі міжнародных тэатральных фэстаў. Аўстрыйская і германская прэса занатавала поспех спектакля ў водгуках і рэцэнзіях пад агульнымі назвамі — «Фестывальныя зоркі».**

**— Рыд, «зоркі» — гэта рэкламная прынада для публікі ці найперш ацэнка прафесійнікаў?**

— Хутчэй, гэта адзнака глядацкай зацікаўленасці, а таксама надзвычайнай добразычлівасці крытыкі («Фестываль прадоўжыцца яшчэ тыдзень, але рэкорд наведвання залы ўжо ёсць», — адзначылі яны.), як і наогул усіх тэатральных людзей. А перадусім — уважлівае стаўленне Альфрэда Мешніка, арганізатара фестывалю «Спектрум» у Філаху (Аўстрыя). Угледзеў ён нас, як вядома, на нацыянальным фестывалі «Славянскія тэатральныя сустрэчы»... Да месца, думаю, будзе сказаць і наступнае: шмат што змянілася ў нашым студыйным жыцці пасля публікацый у «ЛіМе» і часопісе «Маладосць», дзе нас упершыню трактавалі як тэатр-студыю інтэлектуальнай драмы. Скажу й пра іншае, асабліва на фоне размоў апошняга часу пра так званы нацыяналізм у незалежнай рэспубліцы: нашу рускамоўную студыю і польскую драматургію, з якой яна пачыналася, першымі заўважылі ды падтрымалі нацыянальныя выданні...

**— А выданні замежныя?**

— Яны найперш паведамілі, што фестываль у Філаху ладзіцца для людзей тэатральных— для акцёраў, рэжысёраў, крытыкаў, а гледачы разбіраюць ужо рэшту месцаў у зале. Самі мы ўсе спектаклі, натуральна, паглядзець не здолелі.

**— Што новага, на ваш погляд, прапануе сучасная замежная сцэна?**

— Здаецца, «самае навюткае» ў нас — гэта голыя (не аголеныя) людзі на сцэне і да непрыстойнасці голыя (не аголеныя) дачыненні між імі. Замежжа перадусім мае прапанаваць бліскучую тэхніку выканаўцаў (для іх, здаецца, няма нічога немагчымага), але важкіх тэатральных ідэй, а менавіта рэжысёрскіх, бракуе й там. Тэатр нібыта рухаецца і нібыта стаіць на месцы... Пэўнасці, трываласці, нарэшце, упэўненасці не стае нам, і толькі таму, што ездзім вельмі мала, вельмі эпізадычна. На маю думку, беларускаму тэатру ёсць што вывозіць на сусветны тэатральны рынак.

**— Пасля Філаху вы з'ездзілі на гастролі ў Славенію, а потым вас чакаў германскі горад Карлсруэ...**

— І там таксама перапоўненыя залы. Але ў адрозненне ад Філаху — публікай, бо фестываль ладзіцца перадусім для яе. Вядома, уразіў горад: ходнікі, падзеленыя на дзве часткі—для тых, хто ходзіць пешшу, і для тых, хто аддае перавагу веласіпеду, а таксама будынак Канстытуцыйнага суда Германіі, ля якога мы жылі. У горадзе ёсць і оперны тэатр, але туды, як нам патлумачылі, наведваецца публіка сталага веку (мо таму, што задужа дарагія білеты?).

**— А колькі каштавалі білеты на вашы спектаклі?**

— Ад ста дваццаці да ста пяцідзесяці шылінгаў, ад дзесяці да сарака марак... Не трэба думаць, што на захадзе ўсё разлічана толькі на прыбытак. Ёсць некалькі катэгорый гледачоў, якія маюць пэўныя льготы (студэнты, навучэнцы, дзеці і г. д.).

**— Ваш «Стрып-тыз» наведвалі дзеці?!**

— Не, бо ў афішы адзначалася, што наш тэатр-студыя нічога не прапануе дзецям. Але ў праграму аўстрыйскага фестывалю, напрыклад, уваходзілі дзіцячыя спектаклі, і адзін з іх (вандроўнай трупы з Германіі) нас моцна ўразіў (выклікаў шмат асацыяцый з нашым тутэйшым існаваннем): маленькі чалавек прыйшоў у свет, ды, па сутнасці, нікому не патрэбны! Ніхто яго не разумее, кожны намагаецца «зрабіць» ці «перарабіць» яго на свой капыл, замест таго, каб гадаваць ды песціць, як кветку... Дзіця не разумее такога стаўлення, такой дысгармоніі. Таму паступова пачынае падмяняць сапраўднасць сваімі фантазіямі, прыдумваць сабе такі свет, дзе яно, дзіця, жаданае, чаканае (пры гэтым бацькі дзіцяці выглядаюць проста пачварамі са сваімі правільнымі, гуманнымі словамі пра тое, як трэба і як не трэба, як можна і як няможна). Гэты тэатр даводзіць спракавечна тэатральнае: важныя не словы. Куды больш важнейшыя за словы інтанацыя ды пластыка,— я часта паўтараю гэтыя словы А. Эфроса, але толькі цяпер пачынаю спраўджваць іх у сваіх спектаклях... Варта заўважыць, што да маладога тэатра нетрадыцыйных, некананічных форм у Аўстрыі і Германіі — асаблівая ўвага. Публіка (і крытыка) прымае ўмовы гульні тых ці іншых студыйцаў адразу, яе эмацыянальная разняволенасць, гнуткасць проста сілкуе выканаўцаў на сцэне. Мой тэатр не адлюстроўвае жыццё, не паўтарае яго, не капіруе. Ён мусіць быць у лепшым сэнсе гэтага слова элітарным, бо гэтага вымагае пошук незвычайнай, нязвыклай эстэтыкі, своеасаблівая філасофія... У нашым тэатры (насуперак савецкай «традыцыі») вы не зможаце пачувацца ўтульна і сачыць за добрасумленным пераказам п'есы. Прыкра, але свая, беларуская публіка амаль не ўспрымае прыхаванай трагедыйнасці ці далікатнага гумару. Нямецкамоўная публіка спачатку здзівіла: тое, што мы, здавалася, прызначалі для асэнсавання чалавеку таталітарнай сістэмы, што перш-наперш мусіць цвяліць ягоныя пачуцці, безадмоўна ўздзейнічала і на гледача, так бы мовіць, дабрабытнага, але тое, што нам уяўлялася сацыяльным прыгнётам і выяўлялася ў спектаклі як з'ява сацыяльная, тамтэйшыя гледачы ўспрымалі як праяву духоўную... Перадусім сфера духу хвалюе тамтэйшую аўдыторыю.

**— Разняволены дух, авангардны кірунак, пошукі нязвыклай эстэтыкі, парадаксальныя высновы з класічных твораў, вытанчаная публіка і... некалькі спектакляў на карысць беларускіх дзяцей, што пацярпелі ад Чарнобыля і адпачываюць за мяжой...**

— У адным з інтэрв'ю я сказаў, што час Гарбачова — трагічны, і менавіта таму гэта— мой час. Час, які перадусім вымагае ўдасканалення духу...

**Гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ.**

ВЫСТАВА

# ЗБОР НЕВЯЛІКІ, АЛЕ КАШТОЎНЫ

**На працягу ўжо некалькіх гадоў Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі знаёміць гледачоў з багаццем сваіх фондаў. Зараз тут адкрыта выстаўка «Заходнееўрапейскае мастацтва XVI—XX стст.»**

Фарміраванне калекцыі замежнага мастацтва пачалося ў 1960—1970-я гады. У камплектаванні збору заходнееўрапейскага жывапісу істотную дапамогу музею аказаў Дзяржаўны музей выяўленчых мастацтваў імя А. С. Пушкіна, адкуль у 1960 годзе паступілі работы Якаба ван Рэйсдаля, Фрэдэрыка дэ Мушэрона, Гюбера Робера.

Плённым аказалася і супрацоўніцтва з калекцыянерамі. У 1961 годзе больш за 10 твораў мастакоў Галандыі і Францыі былі набыты ў калекцыянера з Мінска М. Габышава. Шэраг твораў жывапісу, скульптуры, прыкладнога мастацтва былі закуплены ў вядомых збіральнікаў Масквы і Ленінграда.

Цяперашняя выстаўка ў ДММ уяўляе найбольш значныя творы жывапісу і скульптуры з калекцыі замежнага мастацтва. Гэта работы славутых і малавядомых мастакоў, якія прадстаўляюць розныя эпохі, школы і накірункі.

Найбольш раннія работы— палатно невядомага нідэрландскага мастака канца XVI ст. «Пакланенне пастухоў» і цудоўна напісаны «Партрэт невядомага з пісьмом» работы італьянскага мастака XVI ст.

Досыць шырока прадстаўлена мастацтва XVII стагоддзя карцінамі мастакоў Галандыі, Фландрыі, Італіі і Францыі.

У галандскім мастацтве XVII ст. склалася вельмі дакладная і завершаная сістэма жанраў — пейзажа, нацюрморта, бытавой сцэны. Найбольш выразнымі прыкметамі галандскай карціны з'яўляюцца, як правіла, яе невялікія памеры і прадыктаваная гэтым дробнафігурнасць, надзвычайная дэталізацыя і стараннасць пісьма.

Вышэйшыя дасягненні галандскага пейзажа XVII ст. звязаны з творчасцю Якаба ван Рэйсдаля. У экспазіцыі ёсць яго работа «Дом на схіле ўзгорка». У другой палове XVII ст. у галандскім пейзажы назіраецца адыход ад нацыянальных матываў і развіццё італізаванага пейзажа. Да такога роду пейзажаў адносяцца палотны Фрэдэрыка дэ Мушэрона, майстра велічнага, класіцыстычнага краявіду.

Галандскі нацюрморт гэтага часу таксама характарызуецца разнастайнасцю тэм, якія развіваюцца, як правіла, у пэўных лакальных цэнтрах мастацтва. Утрэхцкі майстар «рыбных» нацюрмортаў Якаб Жылі з тонкім майстэрствам перадае жывую трапятлівасць толькі што злоўленых рыбін, свежасць яе серабрыстых лускавінак.

Адзін з лепшых твораў на выстаўцы — карціна фламандскага мастака, вучня Рубенса і Ван-Дэйка Петэра Ціза «Венера ў кузні Вулкана». Мастак стварыў вобразы, поўныя зямной, пачуццёвай абаяльнасці. Устойлівая кампазіцыя з нізкім даляглядам, па-фламандску багаты каларыт падкрэслівае велічнасць карціны.

Вядучым стылем у мастацкай культуры Францыі XVII ст. — класіцызм. Вялікую ролю ў пейзажы гэтага часу адыграла захапленне антычнай гісторыяй. Велічныя руіны старажытных храмаў, цудоўныя стройныя каланады будынкаў акружаліся велічнай прыродай. Да такога роду пейзажаў належыць работа Гаспара Дзюге, вучня і паслядоўніка Н. Пусена. У адрозненне ад Пусена, Дзюге ў свой велічны і строгі свет прыўносіў жыццёвыя рэальнасці. У яго карціне «Пейзаж з ахвярнікам» натуральна і гарманічна жывуць два светы — свет мінулага і свет сучасны, гэтай хвіліны.

Сярод работ французскіх мастакоў, прадстаўленых на выстаўцы, несумненна вабіць увагу палатно «Сусанна і старцы» Жана-Франсуа дэ Труа, творчасць якога падае на канец XVII — першую палову XVIII ст. Да біблейскага міфу пра Сусанну мастак звяртаўся неаднаразова. Карціна нашага музея — варыянт аднайменнага палатна, якое захоўваецца ў Дзяржаўным Эрмітажы.

Значныя дасягненні ў галіне партрэтнага мастацтва Францыі пачатку XIX ст. звязаны з іменем Франсуа Жэрара. Строгасць і стрыманасць мастацкай мовы характэрны яго партрэту Ю. А. Тацішчавай, жонкі вядомага рускага дыпламата Д. П. Тацішчава.



Невядомы мастак. Італія. Першая п. XVIII ст. «Партрэт старога ў цурбане».



Жан Франсуа дэ Труа. «Сусана і старыя». XVIII ст.

Вызначальнай рысай жанравых кампазіцый у мастацтве Італіі XVII—XVIII стст. з'яўляецца іх манументальны характар. Буйны план, прамень святла, фіксіруючы погляд на выяўленай падзеі, цёмны фон павышаюць сілу эмацыянальнага ўздзеяння ў карціне малавядомага ў нашай краіне мастака Джыралама Тропа «Музыканты».

Прыхільнасць да прадметнага свету, рэальнай плоці рэчаў характэрна нацюрмортам Давіда Нотэра — прадстаўніка мастацтва Бельгіі XIX ст.

Для мастацтва Скандынавіі XIX ст. у цэлым характэрны паварот да рэчаіснасці, да ўмацавання нацыянальнага пачатку ў мастацтве. Гэтыя тэндэнцыі асабліва выяўляюцца ў пейзажным жанры і ў бытавой карціне. Многія мастакі сталі знаходзіць натхненне ў «этнаграфіцы», у выяўленні побыту лапландскіх вёсак. Пра мастацтва Швецыі можна ў пэўнай ступені меркаваць па творы «Пасля палявання» выхаванца Стакгольмскай Акадэміі Бенгта Нордэнберга.

Скульптура ў экспазіцыі прадстаўлена ў асноўным творамі класіцызму. Італія мяжы XVIII—XIX стст. — работамі Антоніа Кановы, скульптара з сусветным імем. Строгай прапарцыянальнасцю, яснасцю, урачыстым спакоем вызначаецца «Жаночы партрэт» гэтага майстра.

Буйнейшы французскі майстар XVIII ст. — Жан-Антуан Гудон. У ягоным мастацтве адлюстраваліся ідэі асветніцкай філасофіі, якая высока ацаніла асобу, што дзейна служыць Айчыне. Гудон паставіў перад сабой задачу ўвасобіць вобразы людзей, якія стварылі славу сваёй радзімы. Да ліку такіх работ адносяцца прадстаўленыя на выстаўцы партрэты Вальтэра. Бескампрамісная вернасць натуры спалучаецца ў работах скульптара з глыбокім спасціжэннем характару, аналітычнай вастрынёй пранікнення ва ўнутраны свет чалавека.

Віртуознасць тэхнікі выканання, лёгкасць і прыгажосць кампазіцыі характэрны скульптуры «Сатыр і німфа» французскага скульптара Клода Мішэля, празванага Кладыёнам. Творчасць Кладыёна дачыняецца да ранняга класіцызму XVIII ст.

Французскую школу скульптараў-анімалістаў другой паловы XIX ст. на выстаўцы прадстаўляюць работы П'ера Мэна.

Высокія мастацкія вартасці прадстаўленых работ уяўляюць сапраўды глыбокую цікавасць для аматараў мастацтва.

**Т. КАРАНДАШАВА.**

ЧАС І МЫ

Лідзія АРАБЕЙ

# Усе вінаватыя

За тры дні — з 19 па 21 жніўня 1991 года — камуністычная партыя нарэшце поўнасцю сябе распранула, паказала, якія ідэалы яна абараняе, якая «цесная» сувязь у яе з народам, клопатам пра які яна, нібы тым фігавым лістком, прыкрывала свае карыслівыя інтарэсы.

Як совы баяцца святла, так партыя спалохалася дэмакратычных змен у грамадстве, таго кволага яшчэ промня свабоды, волі, які залунаў над народам. Ёй вельмі хацелася і далей трымаць яго ў цемры, нібы таго восліка сенам вабячы камуністычнай перспектывай, якая, нібы той гарызонт, чым бліжэй падыходзіш, тым больш аддаляецца.

Яны і самі не верылі ў камуністычнага бога, але прымушалі народ маліцца яму і тых, хто не слухаўся прымусу, хто адважваўся думаць не так.

Цяпер гавораць — вінаваты ва ўсім партыйны апарат, вярхушка партыі, якая кіравала гэтым злом, а радавыя камуністы не вінаватыя, сярод іх шмат сумленных людзей.

Мне хочацца запярэчыць гэтаму сцвярджэнню і сказаць: усе вінаватыя. Па-першае, хто складаў той апарат? Не нарадзіўся ж ён гатовы, да апаратных вышынь узнімаліся знізу, узнімаліся па лесвічцы, з ніжэйшых прыступак на вышэйшыя. Значыцца, апарат вырастаў з тых самых радавых камуністаў, якіх сёння так абараняюць. Па-другое, і самае галоўнае,— чаму ўсе радавыя камуністы семдзесят тры гады моўчкі пазіралі на велізарнейшы здзек са свайго народа, на велізарнейшы здзек і са сваіх некаторых таварышаў? Ужо за адно толькі гэта кожны камуніст мусіць лічыць сябе вінаватым.

А ў такія блізкія да нашага часу дні? Як жылі камуністы хаця б сабе Саюза пісьменнікаў Беларусі пад «кіраўніцтвам» тых жа райкомаў, абкомаў, цэка? Я ведаю дакладна, як баяліся некаторыя пісьменнікі-камуністы аднаго толькі слова — цэка. Як калаціліся, калі туды выклікалі.

А колькі сёй-той з радавых камуністаў бегаў у той самы высокі дом, каб накляпаць на свайго таварыша, з якім не падзяліў альбо славы, альбо дачнай баразны на Лысай Гары? У кіраўнікоў аддзела літаратуры і мастацтва цэка, якія часта мяняліся і назначаліся з тых самых радавых камуністаў, пухлі папкі ад даносаў і ананімак інжынераў чалавечых душ. І, думаеце, там збіраліся дайсці да ісціны, шукалі нейкую праўду, каб асудзіць вінаватых і пакараць паклёпнікаў? Божа барані! Там прымалі бок таго, хто быў ім бліжэй, хто болей дагаджаў, хто быў большым падпявалам. Праўда ў тым доме і не начавала. Мне асабіста адзін наш партыйны сакратар аб'явіў: «Вы скажаце, што было так, а я скажу, што было гэтак, і паглядзім, каму паверацьl» Ён быў упэўнены, што паколькі ён партыйны сакратар, то павераць яму, хоць ён і скажа няпраўду.

Наш выдатны паэт, адзін з кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў, аднойчы з горыччу мне прызнаўся: «Ну, ведаеце, калі пойдзеш у райком, то там не вельмі пагаворыш...»

Гэты выдатны паэт баяўся райкома, баяўся нейкай функцыянеркі, якая сама павінна была б ва ўсе вушы слухаць гэтага паэта, быць шчасліваю бачыць яго, гаварыць з ім. А ён, аказваецца, быў пад пятою не толькі цэка, але і райкома.

А калі ўспомніць нашы партыйныя сходы? Думаю, ніхто з камуністаў даўно ўжо не верыў у той прывідны камунізм. Але на сходах паўтаралі набіўшыя аскоміну догмы, усе бажыліся тым камунізмам, ніхто не адважваўся сказаць праўду, падняць голас супроць тых, хто меў уладу. Бо могуць жа і кніжку выкінуць з плана, і ў пераліку пісьменнікаў, што складаюць цвет літаратуры, не ўспомніць, чаго добрага, і пахаваюць не па рангу, бо нават дзе каго і як хаваць вырашалася высокім начальствам. А калі хто асмельваўся сказаць слова праўды, зачапіць вярхі, то тыя ж пісьменнікі-камуністы пачыналі лічыць яго блазнам і само з'яўленне сумленнага чалавека на трыбуне выклікала здзеклівыя ўсмешкі. Падтэкстам тых усмешак было: «Я таксама ўсё бачу і разумею, але я ж не такі дурны, каб вылазіць на трыбуну і гаварыць пра гэта!..» Можа, таму так жорстка караліся тыя, хто адважваўся не згаджацца з лініяй партыі, тут усе былі аднадушныя, аднагалосна ўзнімалі рукі за выключэнне такога з партыі, што на той час было падобна да смяротнай кары. І ніколі нікога партыйны сход не абараніў, бо і на гэта не меў улады, меру пакарання «спускалі» зверху.

Што ж датычыла іншых праблем, якія часта ўзнімаліся на партыйных сходах, то да іх пісьменнікі былі зусім абыякавыя, бо ведалі — ніякі партыйны сход сур'ёзнай праблемы не вырашыць. Колькі б ні гаварылі пра развал эканомікі, пра вёскі, якія з кожным днём пусцеюць, пра Чарнобыль, пра Салігорск,— усё будзе заставацца на сваім месцы, бо адзіным рэцэптам ад усіх бед у начальства было — уздым ідэалагічнай работы. У ёй бачылі панацэю ад усіх няшчасцяў. І колькі б ні гаварылі пра беларускую мову, партыйнае начальства на ёй не загаворыць, не загавораць у цэка, а гледзячы на іх, не загавораць у абкомах, у райкомах. Колькі ні гавары пра выданне абласных газет на беларускай мове, яны ўсё роўна будуць выдавацца на рускай. Так і з іншымі праблемамі. Рэзалюцыі пішуць, складаюць і ўсё застаецца па-ранейшаму. Ажыўляўся сход хіба тады, калі разглядаліся побытавыя праблемы. Бурліла камуністычная сходка, высвятляючы, чаму адзін з камуністаў разышоўся з жонкаю і ажаніўся з другою і якія звадкі былі ў іх перад гэтым. Паблажліва-весела абмяркоўваліся даведкі на камуністаў з выцвярэзнікаў. А больш сур'ёзныя пытанні? Чамусьці іх ставілі на канец сходу, калі людзі стамляліся і хацелі аднаго — хутчэй дадому. Дарэчы, гэта было характэрна для кожнага сходу — хопіць гаварыць, час дадому!

Калі ставілася сур'ёзнае пытанне, у якім трэба было разабрацца і сапраўды пакараць злачынцу, хаця б тым, што прызнаць яго віну, усіх камуністаў агортвала абыякавасць, вытокі якой лёгка растлумачыць — кожны думаў сам сабе: а хто яго ведае, можа, у таго нягодніка моцная абарона наверсе (часцей за ўсё так і было) і я са сваім словам траплю, як лапцем у лужыну. І наогул, мяне не чапаюць, то і добра, а іншых — хай сабе, нават цікава, сядзіш на сходзе, як у тэатры. І сход сур'ёзнага рашэння не прымаў, і справу спускалі на тармазах, і беспакаранае зло набіралася новай сілы, злачынца разумеў, што ніякая кара яму не пагражае, рабіў сваю чорную работу далей.

Некалі цётка мая, вясковая кабета, якая ўсё жыццё шчыравала на зямлі, гнула ў калгасе спіну за славутыя палачкі-працадні, сказала мне: «Камуністам добра быць, ён калі і падласць зробіць, то яго пакрыюць». Я тады, з наіўнаю вераю ў справядлівасць і ў тую ж партыю, горача з ёю спрачалася, даказвала, што партыя не такая, яна за праўду гарой.

Мінула шмат гадоў, і я зразумела, што непісьменная мая цётка жыццё разумела лепей, чым я, што менавіта пад кіраўніцтвам КПСС наша краіна кацілася ў бездань бездухоўнасці, амаральнасці. Яе лідэрам было ўсё роўна, што чакае краіну наперадзе, яны былі ўпэўнены ў сваёй непатапляльнасці, у сіле сваёй хлусні. Да апошняга дня. Яшчэ чапляліся за Ніну Андрэеву, дапамагалі ёй тут, у Мінску, арганізоўваць сваю канферэнцыю, учапіліся за той ДКНС, з ім звязваючы свае надзеі на ўваскрэсенне камуністычнай ідэалогіі.

Але спазніліся. У краіне нарадзіўся новы рух, якому ўжо не страшны прывід грознага апарату. Гэты рух нарадзіўся і ў нас, у Беларусі, хоць пакуль што вельмі кволы, і задача ўсіх сумленных людзей падтрымаць яго, не даць апамятацца партыйнай вярхушцы, якая нічога не ўмее рабіць, акрамя як дурманіць народ камуністычнымі догмамі, не даць ёй магчымасці зноў узяць уладу ў свае рукі, зноў кіраваць дзяржаваю. І гэта павінны зразумець радавыя камуністы і стаць на бок дэмакратычных сіл. Бо няма невінаватых камуністаў. Усе вінаватыя. Я далёкая ад думкі клікаць да іх пакарання. Божа барані! Але самі яны павінны ўсвядоміць сваю віну і зрабіць з гэтага высновы.

НОВЫЯ ПЕРАКЛАДЫ

## СУЧАСНІК БУДУЧЫНІ

Выдатны рускі лірык Аляксандр Блок любіў платонаўскае выказванне «Цудоўнае — цяжка». У гэтым сэнсе ён сапраўды рабіў у літаратуры самую цяжкую справу: у час дэвальвацыі ўсіх каштоўнасцяў і сытай бездухоўнасці паэт спрабаваў падантэўску адрадзіць высокае.

Аляксандр Аляксандравіч пражыў жыццё кароткае, але незвычайнае. Паэзія не займала ў ім НЕЙКАЕ месца, яна была самім жыццём, штодзённым і натхнёным. Ен быў яе героем, быў творцам сваёй паэзіі—чалавек, у якім гарэў дух новага стагоддзя, які прайшоў шлях ад пакланення Прыгожай Даме і загадкавай сімвалісцкай лексіцы да прывідаў Незнаёмкі і рэальнарэвалюцыйных Дванаццаці, да простай і ў той жа час вялікай мовы сваіх вершаў аб Радзіме.

У гады першай сусветнай вайны Аляксандр Блок сем месяцаў правёў на беларускім Палессі.

Пісаў ён маці: тут усе лясы<br>амаль што з вольхі...<br>Грузнем у балоце...<br>А ў памяці, бы літары ў блакноце,<br>жандараў ненавісных галасы...<br>Той страшны свет ён ненавідзеў горда:<br>як ноты—словы, фразы—бы акорды,<br>хаваў душы ягонай пантэон.<br>Магчыма, тут, у глыбіні Палесся,<br>адчуў паэт з'яўленне новай песні...

У сакавіку 17-га А. Блок вярнуўся ў Петраград. Неўзабаве ён закончыў паэму «Дванаццаць», а следам, за два дні, напісаў «Скіфаў». Безумоўна, што ў вобразах, думках і рытмах гэтых твораў знайшоў сваё адлюстраванне і вопыт, вынесены паэтам з Беларусі...

Сёння Аляксандр Блок — наш саюзнік і паплечнік у барацьбе за паэзію высокіх думак і пачуццяў, за паэзію глыбока народную.

Спадчына Блока заўсёды жывая. Яна жыве, спрачаецца, сцвярджае цудоўныя ісціны. Яна дапамагае ствараць тое маральнае асяроддзе, якое вельмі неабходна ўсім нам сёння ў наш складаны час.

Прапаную чытачам некаторыя вершы Аляксандра Блока ў сваім перакладзе.

Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ.

Аляксандр БЛОК

### Расія

Як і калісьці — над краінай<br>трымціць кастрычнік залаты,<br>і грузнуць спіцы ў калянах,<br>і размываюцца сляды...

Расія, бедная Расія,<br>яны — лаві іх не лаві —<br>твае напевы ветравыя,<br>як слёзы першае любві.

Не пашкадую, бо не ўмею,<br>як і раней, свой крыж нясу...<br>Якому хочаш чарадзею<br>аддай разбойную красу!

Няхай забавяць сны і мары —<br>мінулае не адышло,<br>і толькі клопат зноў захмарыць<br>тваё прыгожае чало.

Ну што ж! Адной турботай болей,<br>яшчэ адной слязой — гарчэй,<br>а ты ўсё тая ж — з лесам, полем,<br>ды ўзорнай хустай да вачэй.

І немагчымае магчыма,<br>і шлях — не доўгі і цяжкі,<br>калі мільгне з вачэй жанчыны<br>ласкавы позірк з-пад рукі,

і празвініць журбой айчыннай<br>глухая песня з-за ракі!..

### Груган

Груган за кругам робіць круг,<br>груган над сонным лугам кружыць,<br>на шэры і пустэльны луг<br>глядзіць.— Над сынам маці тужыць:<br>«На́ хлеба, грудзі на́... Расці...<br>Расці пакорны, крыж нясі».

Стагоддзямі шуміць вайна,<br>у мецяжах палаюць сёлы...<br>А пад крыламі гругана<br>гавее край мой невясёлы.

Дакуль жа мацеры тужыць!<br>Дакуль драпежніку кружыць!

●

Там чалавек згарэў.<br>ФЕТ.

Як цяжка мне хадзіць сярод людзей<br>і падпяваць мажорным струнам,<br>і аб гульні узрушаных страсцей<br>распавядаць цнатлівым, юным...

І, ўбачыўшы свой вечаровы твар,<br>знайсці ў хаосе рытм жывога танца,<br>каб па знічэўных водбліскаx мастацтва<br>спазнаць жыцця раз'ятраны пажар!

### Муза

Ёсць у песнях тваіх, як стыхія,<br>ад пагібельных вестак агні...<br>Ёсць праклён запаветных святыняў<br>і знявага людской дабрыні.

Сіла ёсць у напевах і словах,<br>што сцвярджаю і я — сам не свой,<br>быццам ты спакушала анёлаў,<br>асляпляючы боскай красой.

І калі ты над верай смяешся,<br>над табою нядрэмна гарыць<br>той халодны і шэры, бы месяц,<br>цьмяны круг, вечны круг — угары!

Зло, спагада, таемная слава —<br>што, скажы, заручона з табой!<br>Для адных ты — і цуд, і забава,<br>для мяне ты — пакута і боль.

Хто мне раптам усё перайначыў,<br>бо чаму я, пазбаўлены сіл,<br>не загінуў, як лік твой убачыў,<br>а тваіх суцяшэнняў прасіў!

Я не быў ні каханым, ні другам.<br>Дык за што падарыла мне ты<br>зорны купал над кветкавым лугам —<br>цень пякельнай тваёй пекнаты!

Халадней за паўночныя ранкі,<br>гарачэй за хмяльное аі,<br>карацей за абдымкі цыганкі<br>твае страшныя ласкі былі.

І была над святыняй пацеха —<br>як знявага і брудная плынь,<br>і для сэрца няўцямная ўцеха —<br>гэта горкая страсць, як палын!

